

Дай свабод, Новы год, Долю дай,
І ўскрасі, прасвяці Родны край. *Янка Купала*



*З любоўю да ўлоння*

№6 (15) - 1 (16)
1998 1999

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік

## Увагі рэдакцыі

**Н**умар, які Вы трымаеце ў руках, ёсць сімвалічным – і ў лепшым, і ў горшым сэнсе. Патлумачым, чаму. Ён не толькі апошні ў 1998 годзе, але і першы ў 1999-м. Рэч у тым, што нам хацелася, каб яго прачыталі, так бы мовіць, і старыя, і новыя падпісчыкі. Гэта па-першае. Па-другое, сёлета двухмесячнік будзе выходзіць не пры канцы двух месяцаў (скажам, студзень-люты), як было раней, а на пачатку. І яшчэ. Нашы старыя падпісчыкі атрымаюць два асобнікі газеты. Адзін з іх, так бы мовіць, рэкламны. Падаруйце яго знаёмым, сябрам ці суседзям, калегам па працы, перадайце ў школу, бібліятэку -- пашырце нашае кола!

**Ц**япер патлумачым "горшы сэнс". Здвоены нумар – характэрная (і сумна сімвалічная) прыкмета эканамічнага крызісу, які балюча зачапіў выдавецкую справу. З сярэдзіны года, калі рэдакцыя замаўляла падпісныя паказчыкі на 1999 год, кошт нумара не толькі падвоіўся, але павялічыўся шматразова. Што гэта значыць? Тое, што грошы з падпіскі абясцэніліся. І таму, магчыма, праграма года абмяжуецца пяцю нумарамі газеты. Але гэта ў тым выпадку, калі мы не знойдзем больш самаахвярнага варыянту рабіць газету амаль бясплатна, пакуль ёсць вы, нашы ўдзячныя чытачы і падпісчыкі. Аднак гэта магчыма толькі ў выпадку, калі знойдуцца фундатары, чые сродкі істотна напоўняць наш банкаўскі рахунак, і мы зможам аплочваць дарагакоштавыя паслугі друкарні.

**М**ы не трацім надзеі на перспектыву і не спяшаемся зачыняць наша выданне. Яно застанецца незалежным, беларускамоўным і прыродалюбным. Звяртаемся з просьбай расказваць пра нашу газету, раіць падпісацца на яе ўсім, хто любіць свой край, хто парываецца яго бараніць і хоча авалодаць першапачатковымі тэхналогіямі ў адстойванні каштоўнасцяў. Будзем мацаваць наша кола!

**Сонца на лета! Да сустрэчы ў сакавіку.**

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва , падпісны індэкс 63267, 63317*

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

*Для кантактаў:*
*220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38, 16*
*Тэл. (017) 236-50-76, факс 220-23-53*

*The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk*
*Contact: Ivanouskaya St. 38-16*
*220088 Minsk Belarus*
*fax (375 172) 20-23-53*

Спрыяльнага навакольнага асяроддзя!



## Тэма нумара

**Права на жыццё ёсць праблемай ягонай якасці. А прызнанне каштоўнасці чалавечай асобы ёсць часткаю гэтага права.**

*Вучоныя-экологі і праваабаронцы абмяркоўваюць Артыкул 6* ***Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека*** *(ААН, 1948)*

с. 3-7

Слова рэдактара

## Душа зямлі і душа беларуса

На Новы год ды ў божае нараджэнне хочацца баяць казку пра лес, які патануў у сінім снезе, а на яго ўсё цярушыць і цярушыць халодна-яскравае сеіва з далёкіх нябёсных глыбіняў. На паляну, залітую месяцам, да высокае статнай яліны сыходзяцца жыхары лесу. Шум, гамана, таўкатня; адзін тост змяняецца другім, трэцім, а ў інтанацыях не-не ды пракідаюцца знаёмыя ноткі: радзее наш лес, не згледзіш, і гэтай паляны не стане, пайшла мода на аўцыёны, бартэры, гешэфты... Людзі, прабасіў Лось, маўчаць, ім справы няма, пакуль апошняе дрэва не спілуюць.

Вось такая выходзіць казка. Не казка, а быль. Можа, таму, што я не казачнік.

Тады лепш паданне. Душа зямлі ходзіць лесам і кажа: *"Сячыце, сячыце! Не будзе дрэваў – і мяне не будзе..."*

Гэты год, як і мінулы, быў для беларускага лесу яшчэ адной старонкай трагічнай гісторыі, бо яго як ніколі секлі і прадавалі. Недзе ў сярэдзіне года нібыта схамянуліся, паследавалі вокрык "бацькі", што дзеецца, маўляў, вялікае здзірства.

Але гэта ўсё гульня, двурушнасць вартаўнікоў. Высякалася не адно душа зямлі, але й душа беларуса. Майданэкі па ўсёй Беларусі загояцца не хутка.

Бяда ў тым, што мы, хто жыве на гэтай зямлі, рызыкуем "прагледзець" свой лес. Лес – як лёс. Прагледзелі ў 60-я гады балоты і рэчкі — іх без дай рацыі асушылі. Цяпер узяліся за лясы, за дубровы, за тоўстае і каштоўнае, што прыносіць валюту.

Каб нас не абабралі да ніткі, да "апошняга дрэва", трэба займаць усенародную абароону.

Па-першае, трэба ведаць свой лес, яго сям'ю, радавод. Сёння ў свеце асаблівa беражліва ставяцца да натуральных адвечных лясоў і не даюць іх зводзіць. На Беларусі яны дзе-ніздзе ацалелі, цудам захаваліся, але нават лясныя канторы, мясцовыя школы, грамадскія арганізацыі пра іх мала ведаюць. Па-другое, што можна зрабіць неадкладна – зафіксаваць сённяшні стан навакольнага лесу, вызначыць каштоўнасці і не даць ніжэй апускаць планку. Яна катастрафічна апушчаная.

"Ёлкавае" свята – Навагоддзе й Каляды – ёсць вельмі зручнай падставай не адно ўспомніць казачны, велічны, чарадзейны лес, але й паклясціся на сяброўскую вернасць, на яго абарону, на чынную справу яго ўратавання.

***Валерый Дранчук***





КОЛА пішыце тэлефануйце пытайцеся КОЛА пішыце тэлефануйце пытайцеся КОЛА

# У нас ёсць права спытаць...

***Анталогія** ў перакладзе з грэцкае мовы значыць букет кветак. Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі. Гэты раз у нашай падборцы высока і годна, а значыць, і паэтычна гучаць словы нарвежскага паэта: "У нас ёсць права спытаць..." Мы хочам засведчыць: праўныя падставы, якія чуюцца побач з лірычна-ўзнёслымі, ёсць і ў паэзіі.*



***Максім Багдановіч***
(1891-1917)

* * *

Ноч. Газніца гарыць, чырванее,
І гарбата, астыўшы, стаіць.
За сцяной запявае завея,
Сумна бомамі ў полі звініць.
З краю ў край яе гул аддаецца,
І чагось усё думаю я,
Што з няволі зімовай там рвецца
Крэпка скутая снегам зямля;
Грудзі моцныя цяжка ўздымае,
Ветрам вее, як дыхаць пачне,
Снег халодны ў палёх калыхае
І вось-вось свае путы страхне.

***Арвід Тургейр Лі***
*Нарвегія**

* * *

Вяне лес,
памірае рыба і птушка.
Дым і атрута
апаноўваюць нашу зямлю.
У нас ёсць права спытаць:
ці не шчыліна гэта ў пекла?

**Вузкі ручай**

О няшчасны, гарушчы ручай –
тонкая нітка
побач з куродымнай фабрыкай.

Выбіты, здратаваны бераг,
каламуць вады.

Цяжкі выпадак...
Вельмі падобна,
што заўтра ручай сканае,
што яго не стане
зусім.

Пабачце, вось месца яго
на гэтай зямлі, —
і тут яму цесна.
Песні таксама тут цесна,
і ёй тут зусім непрытульна.

***Марцэлюс Марцінайціс***
*Летува****

**Спраўджанае наканаванне**

Каляднымі прыцемкамі
калі
ад трансфарматарнай будкі
віхурыў снег,
я падумаў,
што ўжо збылося
старажытнай шумерскай
багіні Іштар прадказанне:

"Калі і далей так на свеце
тварыцца будзе,
я выпушчу
з-пад зямлі
нябожчыкаў,
і яны
расплодзяцца
і запалоняць зямлю".

.......................................

За свой доўгі век
у Літве
я спаткаў толькі некалькіх –
можна злічыць па пальцах –
жывых людзей.

***Мікола Мятліцкі***

* * *

Было балотца ўскрай сяла,
Дзе млеў аер, жаўцела лотаць.
А побач рэчачка была –
Няма ні рэчкі, ні балота.
Ляжыць шырока сенажаць,
Канал праразгінай... Не веру!
Пад ветрам спуджана дрыжаць
Лісты прагорклага аеру.

***Анатоль Вялюгін***

**Снегіры**

Заснулі белыя палеткі.
Мароз загрукаў у двары.
Зірнеш з акна:
Нібыта кветкі,
на сініх вербах снегіры.
Надзьмуты важна птушак воллі...
У шуме строгай сумятні
ані забудуцца ніколі
маленства снежаньскія дні.

Сіло стаяла ля дубровы.
Бяжы... узрушаны, бяры
трапёткі, вогненна-пуховы,
жывы кавалачак зары!

***Яніс Рыцас***
*Грэцыя**

**Знянацку**

На камень паклалі лустачку хлеба.
З'явілася птушка; пачала дзяўбці.
Прыйшла старая. "Я пакідала
не для цябе", — сказала яна.
Узяла хлеб, адшчыквала крошкі,
давала птушцы.
Птушка глядзела старой у вочы, не ела.

***Хайнц Калау***
*Нямеччына **

**Усё, што сапраўднае**

Усё, што праўдзівае ў свеце,
умее быць ціхім.

У цішыні спее плод
і падае долу ліст.
З немасці нараджаецца снег.
Лёд на возеры крэпне бязгучна –
смерць прыходзіць як сон.
Міг зачацця маўклівы.
Моўчкі сыходзіць вада ў раллю,
і сонца грэе без шуму .
Гэтак жа ціха расце трава
і без выбухаў
распускаюцца дрэвы.
Усё, што праўдзівае, істае,–
умее быць ціхім.

***Фёдар Цютчаў***
*(1803-1853)*
*Расія***

* * *

Чарадзейкаю зімою
У здранцвенні лес стаіць –
Пад пасцілкай снегавою
Ён застылаю, нямою,
Дзіўнай існасцю трымціць.
Ён стаіць, зачараваны, —
Не мерцвяк і не жывы –
Непрабудным сном скаваны,
Спрэс акрыты, спрэс заткаsuccessfulны,
Пакрывалам пухавым.
Сонца кволае мо кіне
На яго прамень касы –
Лес не зрушыцца белай стыні:
Асляпляльна ўспыхне іней
Самацветамі красы.

***Кім Дзюн***
*Далёкі Ўсход*

*(з карэйскай)*
* * *
Аднойчы ў грудзі мае
Адчыняцца чорныя дзверы.
Следам закоціцца сонца,
І з сонцам – маё жыццё.
Паспець бы вярнуць тую івалгу,
што цешыла ўранку мяне.

**Воблака**

Прыгнанае з далечы даляў ,
Страціла свой першавобраз, --
Вецер яго разматляў ,
Раскудлаціліся скалы.
Выгляд яго цяпер
Адно толькі ў сэрцы маім.

***Валерый Дранчук***

**Год каня**

Па чорнай талай дарозе
у галалёдную слоту
на высоказабартаванай машыне
коней вязуць на бойню

а я на абочыне коўзкай
стаю з навагодняю ёлкай
зялёную смолкую лапку
чакае Бліщчасты Конь

спакойны позірк шафёра
ў цёплай мяккай кабіне
кузаў брудны і слізкі
з поўсці сцякае дождж

а я навагоднюю ёлку
вязу з задуменнага лесу
зялёную смолкую лапку
чакае Бліщчасты Конь

галовы тырчаць рудыя
зліпліся мокрыя грывы
вочы – асеннія слівы –
коцяцца ў слотную гразь

а дома са скрынкі кардоннай
выцягваюць дзеці гірлянды...
зялёную смолкую лапку
чакае Бліщчасты Конь




*Пераклады на беларускую:*
** Валерый Дранчук,*
*** Іван Івашка*
**** Алесь Разанаў*

## SUMMARY

***"We are entitled to say" – these words of the Norwegian poet gave the name to a selection of poems by foreign and Byelorussian authors, the subject of it being "Man and Nature".***

***У** **важаючы на тое**, што прызнанне годнасці, уласцівай усім членам чалавечай сям'і і роўных ды неад'емных іхніх правоў ёсць асновай свабоды, справядлівасці і ўсеагульнага міру; і*

***ўважаючы на тое**, што грэбаванне і пагарда да правоў чалавека прывялі да варварскіх актаў, якія абураюць сумленнае чалавецтва, і што стварэнне такога парадку, за якім людзі будуць мець свабоду слова й перакананняў і будуць свабодныя ад страху й галечы, абвешчана як высокае памкненне людзей; і*

***ўважаючы на тое**, што неабходна, каб правы чалавека ахоўваліся ўладай закона з мэтай забеспячэння таго, каб чалавек не быў змушаны ў якасці апошняга сродку паўставаць супроць тыраніі й прыгнечання; і*

***ўважаючы на тое**, што трэба садзейнічаць развіццю дружалюбных адносін паміж народамі; і*

***ўважаючы на тое**, што народы Аб'яднаных Нацый пацвердзілі ў Статуце сваю веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы і ў раўнапраўе мужчын і жанчын і вырашылі садзейнічаць сацыяльнаму прагрэсу і паляпшэнню ўмоў жыцця пры большай свабодзе; і*

***ўважаючы на тое**, што дзяржавы-члены абавязаліся садзейнічаць, у супрацоўніцтве з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый, усеагульнай павазе й захаванню правоў чалавека і асноўных свабодаў; і*

***ўважаючы на тое**, што ўсеагульнае разуменне характару гэтых правоў і свабод мае велізарнае значэнне для поўнага выканання гэтага абавязацельства;*

*ГЕНЕРАЛЬНАЯ АСАМБЛЕЯ*

*абвяшчае*

*гэтую Ўсеагульную дэкларацыю правоў чалавека ў якасці задачы , да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы, каб кожны чалавек і кожны орган грамадства, увесь час маючы на ўвазе гэтую Дэкларацыю, імкнуліся шляхам асветы і адукацыі садзейнічаць павазе гэтых правоў і свабодаў....*

# Кожны чалавек мае права на жыццё...

**Артыкул 6**

**Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека** абвешчана 10 снежня 1948 года. Змяшчае 30 артыкулаў. Аднаму з іх прысвечаны гэты нумар.



*Фота: Лявон Кісялёў (Мінск)*

**Эльза Хостад:** *"дэкларацыя стымулюе мноства кірункаў да годнасці й каштоўнасці чалавечай асобы."*

**Аляксей Мікуліч:** *"права на жыццё, на здаровыя асяродкі пражывання застаецца незапатрабаваным, другарадным."*

**Валянцін Яцухна:** *"дэпутаты, якія абяцалі жыхарам адстойваць іх правы, сёння наўрад ці ўспомняць свае дэкларацыі."*

**Іна Зеніна:** *"права людзей на здаровае навакольнае асяроддзе і ўстойлівае развіццё сёння цяжка ўявіць без іншага права – права нашых нашчадкаў на эталонныя тэрыторыі і ландшафты, на нерахаваныя лясы і балоты, на запаведны код жыцця."*

**Яўген Цэрахаў:** *"выкананне законаў залежыць ад таго, наколькі актыўна грамадства гэтага дамагаецца."*

**Алена Лаеўская:** *"без належнай рэалізацыі такога натуральнага права, як права на жыццё ў здаровым асяроддзі могуць застацца неўжыванымі і правы, пра якія гаворым куды часцей, – сацыяльна-эканамічныя, палітычныя ды іншыя."*

**Міхаіл Пастухоў:** *"еўрапейскі кантынент пераважнаю большасцю краін сёння ўжо не абыходзіцца без амбудсмена – ўпаўнаважанага па правах чалавека. Такая пасада будзе ініцыявана й заснавана тады, калі ў Беларусь вернецца законнасць, дэмакратыя і павага да правоў чалавека."*

"Мы пашыраем наша стаўленне да пытання бяспечнасці чалавека. Сёння бяспека часцей і часцей разумеецца не адно як ваенны тэрмін, а намнога шырэй, чым адсутнасць канфліктаў".

Генеральны сакратар ААН Кофі Анан

SUMMARY

***The issue is dedicated to Universal Declaration of Human Rights (UNO, 1948). The authors of the article, who are scientists and law-defenders, discuss in particular the Article no. 6, linking it to the constitutional right of Byelorussian citizens for healthy environment.***

 



# Права на жыццё ёсць праблемай ягонай якасці. А прызнанне каштоўнасці чалавечай асобы ёсць часткаю гэтага права.

## Вучоныя-эколагі і праваабаронцы абмяркоўваюць Артыкул 6 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (ААН, 1948)

Неяк слухаў нядзельную радыёперадачу. Яна называлася хрэстаматыйна проста – *"Родная природа"*. Слухалі яе, напэўна,тысячы беларусаў, сярод якіх была і сельская настаўніца (назаву яе Марыя Іванаўна), бо мела да перадачы адносіны першапрычынныя – менавіта ў яе хапіла мужнасці заступіцца за свае родныя ваколіцы, паспрабаваць не дапусціць размяшчэнне звалкі цвёрдых адходаў у блізкім суседстве з вясковымі агародамі. Яна і вырашыла адстаяць сваё чалавечае і канстытуцыйнае права на спрыяльнае навакольнае асяроддзе. Аднак з герояў Марыя Іванаўна ўраз патрапіла ў вінаватыя. Маўляў, не разабралася, падняла гвалт і гэтак далей. Вядучая перадачы сабрала каля мікрафона каманду службовых чыноў і, як кажуць, дала адпор дэмакратыі знізу. Радыёбульдозер не пакінуў і следу ад заўсёды кволай паверхні правашукальніцтва і чалавечай годнасці. Не думаю, што гэта пакрыўдзіла ці прынізіла жанчыну, спадзяюся, яна ведала, з кім мае справу. Размова пра іншае. *Права чалавека на жыццё, на здаровае навакольнае асяроддзе* застаецца адным з самых няўважаных, закінутых хламуддзём бягучых праблем пад гнётам будзённага ўціску. Яно заганяецца ў кут -- а не заахвочваецца, не ўважаецца за вялікую грамадскую каштоўнасць. Сельская настаўніца інтуітыўна разумела, што звалка – гэта абавязкова небяспека. І яе пачуццё супраціву куды больш натуральнае, чым запэўніванні адказных асобаў у нашкоднасці звалкі, яе адпаведнасці ўсім стандартам. У чым тут рэч? Краіна, у якой народ даведзены да галечы, мусіць збываць сваім збяднелым грамадзянам усё таннае і марнае, што хутка псуецца й трапляе на звалку. Мы сёння плацім за тое, што ў экалагічна арыентаваным грамадстве "не праходзіць" эканамічна. У нас "праходзіць", бо мы выбіраем таннейшае. (Дарэчы, бабуліна льняная торбачка мне падаецца больш сучаснай за суперпакет не ў плане музейнай рэдкасці, а ў плане мэтазгоднасці экалагічных паводзінаў: калі й давядзецца адпраўляць на звалку, яна не будзе пагражаць асяроддзю злучэннямі небіялагічнага паходжання). Аднак ці варта індывідуалізаваць праблему? Дзяржава сама ў мностве праяваў паводзіць сябе антыэкалагічна, нягледзячы на прынятыя апошнім часам прыродаахоўныя законы. Скажам, размяшчае тыя ж звалкі, не задумваючыся, хто і чаму нарабіў столькі смецця, спрабуючы пры гэтым накінуць абручы свайго мыслення ўсяму грамадству. Згаданая радыёперадача – адметны след бюракратычна-ведамаснага мыслення, якое з недапушчальнай лёгкасцю завалодвае радыёэфірам. Інакш гаворка ішла б *пра іншае* — яго вялікасць Права чалавека на прыстойнае, спрыяльнае асяроддзе, а не тэрыторыю для прамысловых спаражненняў.

Я, прызнацца, развітаўся ў эфіры з Марыяй Іванаўнай, шчыра жадаючы ёй добрага здароўя. Ластаўкі нашай зямлі, якія не выракліся свайго краю і ахвярна любяць яго, будуць упарта рабіць вясну. А якая ж вясна без квецені, чыстых крыніц і гаючага водару! І без нашага права на жыццё, на працяг свайго роду і роду ўсяго жывога, з кім чалавецтва павінна высокамаральна дзяліцца экасістэмай. **Віталь Прошча**

## У ходзе пабудовы дэмакратычнага грамадства

*самага пільнага й чыннага спрыяння патрабуе ўдзел грамадскасці ў прыняцці экалагічных рашэнняў на падставе больш шырокай інфармаванасці насельніцтва, доступ людзей да экалагічнай інфармацыі, – гаворыцца ў* ***Дырэктыўных прынцыпах комплекснага кіравання прыродаахоўнай дзейнасцю*** *ў краінах з эканомікай пераходнага перыяду, распрацаваных* ***Еўрапейскай эканамічнай камісіяй і Праграмай ААН па навакольным асяроддзі. –*** *Трэба ўстанавіць адпаведныя судовыя працэдуры і адміністратыўныя механізмы згодна з* ***прынцыпам 10*** *Рыа-дэ-Жанейрскай дэкларацыі па навакольным асяроддзі і развіцці. Дзяржаўныя органы павінны наладзіць практычныя захады, каб забяспечыць доступ шырокай грамадскасці да экалагічнай інфармацыі, якая б зыходзіла пры гэтым ад саміх органаў і ад суб'ектаў гаспадарчай дзейнасці. Экалагічныя дадзеныя і звесткі для сродкаў масавай інфармацыі апрацоўваюцца адпаведным чынам і даводзяцца ў даступнай форме.*

*ААН, 1994*



Эльза Хостад

## Новая ідэалогія, якая павінна замяніць старую

Дэкларацыя пакуль зусім маладая. Ёй усяго 50! Каб змяніць светабачанне, псіхалогію, свядомасць, каб нязвыклае сталася нормай, набыткам, — патрэбна значна больш часу. Не толькі набыць – няпроста й развітацца з былымі стэрэатыпамі. Савецкая ідэалогія мела досыць адрозны погляд на чалавека: перад усім і ўсімі – дзяржава, а чалавек пасля... У Дэкларацыі знаходзім іншы прыклад, дзе ўсё зыходзіць ад чалавека, ягонага права і ягоных свабодаў. Гэта, калі хочаце, новая ідэалогія, якая павінна замяніць старую.

Кожная краіна ў залежнасці ад стану грамадства як бы займела перспектыву і шанец зрабіць крок наперад. Дэкларацыя стымулюе мноства кірункаў да годнасці й каштоўнасці чалавечай асобы. Каб мець вынік, трэба памкнуцца і нешта зрабіць – сёння, заўтра, штодзённа. Калі я гэта кажу, я маю на ўвазе і намаганні кожнага жыхара. Спачатку вельмі важна зразумець і ўсвядоміць. Карыстацца правамі, абараняць іх – важна пагатоў.

Значэнне Дэкларацыі бачу надзвычай актуальным і ў нашым сталым цяперашнім намаганні захаваць навакольнае асяроддзе прыдатным для годнага бяспечнага жыцця. Чарнобыльская бяда зварушыла свядомасць кожнага беларуса, прымусіла многіх глянуць на сябе збоку: "Дзе тут я, і дзе маё права? І перад кім я магу адстаяць гэтае права?" Пытанні большасцю безадрасныя, бо чалавечае жыццё ў краінах былога СССР каштавала няшмат таму права на штосьці лепшае, чым для цябе стварыла дзяржава, выглядала не па-савецку, расцэньвалася адпаведна.

Што рабіць і якія механізмы ўвогуле магчымыя для рэалізацыі правоў чалавека? Мяркую, перш-наперш патрэбна шырокая іх прапаганда – каб чалавек, шараговы жыхар Беларусі ўсвядоміў, што ён сам здольны і можа нешта зрабіць – скажам, з'эканоміць паперу ці электраэнергію, перасесці з легкавушкі на ровар, рабіць экалагічна прыдатныя пакупкі і гэтак далей. Але каб чалавек мог добра арыентавацца і ўплываць, ён гэта павінен добра засвоіць праз сродкі інфармацыі. Тут важная роля дыскусіяў, найперш на тэлебачанні, дзе ёсць вялікая аўдыторыя. Наогул, роля журналістаў вельмі значная, вырашальная.

Не менш важны рынкавы фактар. Калі ёсць рынак, ён добры тым, што пакупнік мае ўладу і, скажам, не набудзе экалагічна рызыкоўнай прадукцыі. Гэтак жа істотны таксама рэальны плюралізм, які добры тым, што выбаршчык мае магчымасць выбраць лепшы ўрад, займець лепшага міністра, лепшую службу кантролю і гэтак далей.

Права на жыццё я аднесла б перш-наперш да праблемы харчавання. Як мы кажам, экалагічна чыстага харчавання. Гэта, бадай, альфа і амега жыцця, нашага існавання – быць ўпэўненымі ў тым, што хлеб альбо яблык ёсць нашымі біялагічнымі саюзнікамі, а не аб'ектамі падазронасці. Інакш гэта тэрор, псіхалагічны стрэс: ясі і падсвядома думаеш аб небяспечнай начынцы спажыванага прадукта. Увогуле, як многа значыць для нас права на чыстае харчаванне і як многа трэба зрабіць, каб гэтае права зрабілася непарушным, гарантаваным. Мяне зразумее кожная беларуская жанчына, кожная маці. Жахліва, калі ў адкрыты раток дзіцяці даеш нешта экалагічна сумніўнае, скажам, з дамешкам радыяцыі.

Я вельмі рада, што гэты гумар газеты "Белавежская пушча" прысвячаецца праву чалавека на здаровае навакольнае асяроддзе. Гэта вельмі ўдзячная тэма для сённяшняй журналістыкі.

*Эльза Хостад працуе ў Прадстаўніцтве ААН каардынаткай праграмаў у галіне правоў чалавека, экалогіі і сродкаў масавай інфармацыі Праграмы развіцця ААН (ПРААН) у Беларусі. Нарадзілася ў Швецыі, да прыезду ў Мінск працавала ў Маскве.*

Аляксей Мікуліч

## Як праўнук пісьменнага прадзеда, бяруся сцвярджаць...

Думаю пра вытокі. Хочацца адчуваць пад сабою грунт. Яшчэ з неалі-ту нашы прашчуры, дзякуючы паважлівым адносінам да наваколля (прыроднага й сацыяльнага), прыстасаваліся менавіта да гэтых умоў існавання й тым самым перасілілі жорсткі цiск натуральнага адбору. Ці засталася ў нашай крыві хоць кропля ўдзячнасці – даччынай, сыноўняй – за гэты шматвяковы прашчурскі подзвіг? Яны данеслі да нас агмень жыццёвае моцы, уручылі нам права на жыццё, якое сёння мусім абараняць свядомасцю і дзеяннямі.

Прыродазберагальная псіхалогія нашых продкаў на працягу тысячагоддзяў фармавала альтруізм нацыі ў дачыненнях з нямоглымі, калекамі,



 

***Свет узаемазалежны.***
***Чым далей, тым больш.***
***Арганізацыя Аб'яднаных Нацый заклікана ў гэтых умовах выконваць ключавую ролю ў абароне глабальнага навакольнага асяроддзя і заахвочванні ўстойлівага развіцця***

сваімі суседзямі, вучыла культуры паводзін, узбагачала духоўную спадчыну. Калі мы сёння, як і раней, гаворым пра вольную Беларусь, дык гэта значыць, што апроч мовы й дзяржаўнасці мы трымаем на ўвазе і неабходнасць гарманічных узаемаадносін, вяртанне забытых нормаў, запаведзяў, законаў, па якіх жылі дзяды й прадзеды.

Статут Вялікага Княства Літоўскага з ягонымі ажно трыма паслядоўнымі рэдакцыямі красамоўна сведчыць пра дбанне і цягу нашых вялікіх продкаў да парадку і дасканаласці. Як прыклад высокага еўрапейскага чыну ў сэнсе аховы правоў чалавека на асабістую маёмасць, на абарону гонару й годнасці Статут ВКЛ нязмерны ў сваёй значнасці. Уражваюць раздзелы, дзе гаворка ідзе аб прыродных багацсях, якія дадзены людзям на разумнае карыстанне, а не на псоту і глум.

На жаль, войны і пошасці нішчылі наш край, парушалі адвечную ўладкаванасць жыцця, генетычную трываласць. Разбураўся інтэлектуальны, разумовы патэнцыял нацыі.

Маючы свой радавод ад Манеца Мікуліча (1558г.), я, праўнук пісьменнага прадзеда, лепшага на вёсцы дзеда-гаспадара, сына амаль святой маці, і я, інтэлігент у першым пакаленні, сёння бяруся ўпэўнена сцвярджаць, што цяперашняе гаротна-рабскае існаванне народа паходзіць ад недасведчанасці і неінфармаванасці. Толькі свядомы, добра паінфармаваны і адукаваны чалавек здольны прымаць разумныя рашэнні, толькі такія людзі павінны займаць месцы на ўладным Алімпе, кіраваць краінай, весці за сабой нацыю.

Грамадства іменна такіх людзей мае будучыню.

Сёння, на жаль, няма належнага, часам элементарнага клопату пра чалавечую ахаванасць перад пагрозамі самазнішчэння; людзей нішчыць тытунь, гарэлка, наркотыкі, шкоднае асяроддзе. Тым самым не абаронены правы зачатага і яшчэ не народжанага чалавека–дзіцяці. Мы ўжываем брудную пітную ваду, дыхаем забруджаным паветрам, амаль не задумваемся перад якасцю спажываных прадуктаў харчавання. Між тым, стандарты жыцця наўпрост залежныя ад узроўню і якасці інфармацыі, яе падачы і эфектыўнасці.

Трэба абараняцца. У гэтай настойлівай неабходнасці грамадства так і не здолела аб'яднацца. Нават пасля Чарнобыля. Сёння, мяркую, працэс ідзе ў адваротным кірунку. Гэта значыць, у бок раз'яднанасці, палітычнай нецярпімасці, асабліва паміж маладым і старэйшымі пакаленнямі. Права на жыццё, на здаровыя асяродкі пражывання застаецца незапатрабаваным, другарадным.

Аднак не верыць у духоўныя ідэалы і дэмакратычныя каштоўнасці ўжо немагчыма ў сённяшняй Беларусі.

*Аляксей Мікуліч. Родам з-пад Баранавічаў. Антрaполаг, доктар біялагічных навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі экалогіі. Працуе ў Нацыянальнай Акадэміі Навук, даследуе генафонд Беларусі (гл. таксама "БП", №№4-5, 1998)*

**Валянцін Яцухна**

## Надзея на сродкі масавай інфармацыі

Сёння, гледзячы як з кожным годам затухае, аддаляецца й глухне праблема Чарнобыля, можна казаць, што з правамі чалавека на здаровае жыццёвае наваколле ў чарнобыльскай Беларусі, мякка кажучы, не спрыяльна. Гэты паказчык застаецца вырашальным у ацэнках стану грамадства, якое з-за эканамічнага заняпаду, беднасці й нават галечы становіцца ўсё больш няздольным рэалізаваць права на бяспечнае асяроддзе. Мы сведкі даволі характэрнае з'явы: эканамічны крызіс з ростам цэнаў і падзеннем заробкаў вельмі хутка напаліў грамадскую думку, узняў яе на мяжу эмацыянальнага ўзрушэння, спарадзіў шматлікія аналітычныя напрацоўкі; тым часам экалагічны крызіс мае не менш пагрозаў і патрабуе адэкватнага грамадскага водгуку, аднак праблема такога кшталту мала каго кранае, каб выклікаць дзеянні хуткага рэагавання.

Рэгіянальныя, мясцовыя праблемы, асабліва праблемы чарнобыльскай глыбінкі схаваліся нібы ў тумане. Дэпутаты, якія абяцалі жыхарам адстойваць іх правы, сёння наўрад ці ўспомняць свае дэкларацыі. Заўчасная, нічым не апраўданая бесклапотнасць, вядома ж, не актывізуе заканадаўчую ініцыятыву, пакідаючы па-за праўным полем мноства пытанняў міжнароднага, геапалітычнага ды геаэкалагічнага паходжання, якія патрабуюць грунтоўнай і неадкладнай працы, дыскусіяў, публічных абмеркаванняў і , у рэшце рэшт, прыняцця новых законаў.

Да прыкладу, Беларусь ёсць транзітнай краінай, што абумоўлівае ўздзеянне на яе стан шматлікіх экалагічных чыннікаў. Якія тут патрэбны рашэнні і якім чынам будзе забяспечана іх прыняцце – і гэтыя пытанні не маюць дзейнай падтрымкі з боку ўладных структураў. Я б сказаў, лагоднае замірэнне адказных асобаў, якія павінны былі б, але, на жаль, не нясуць адказнасці за бяздзейнасць. У рэшце рэшт, грамадзяне Беларусі не могуць разлічваць на абарону сваіх правоў на прыстойнае асяроддзе, бо якасных дэмакратычных рашэнняў чакаць пакуль не выпадае. Вузкае кола клеркаў выдасць чарговую паперу, праблема будзе закрытая.

На што спадзявацца? У мяне застаецца надзея на сродкі масавай інфармацыі, на сумленнасць і грамадзянскую пазіцыю "чацвёртай улады". Абараніце людзей засцярожлівым словам, не дайце забыцца, што ўсе мы па-ранейшаму пад крылом Чарнобыля! Дайце людзям падставу патрабаваць, бараніцца, не апускаць рукі.

Я не ведаю дакладна, хто паперш усіх мусіў бы быць "парушальнікам спакою", але ведаю цвёрда, што самыя верхнія пазіцыі павінны належаць двум міністэрствам: Мінпрыроды і Міністэрству па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў Чарнобыльскай АЭС. Апошняе вельмі даўно падавала хоць якія прыкметы жыцця – быццам яго й не існуе. А гэта ж цэлыя паверхі кабінетаў і чыноўных асобаў, якія нібыта шчыруюць у інтарэсах народа, яго правоў. Што народ ведае пра іх працу? Чым яна карысная для народа?

Калі ёсць прычыны, якія замінаюць гэтым ведамствам брацць на сябе клопат у адстойванні права нацыі на сваё здароўе, на здароўе дзяцей і нашчадкаў, няхай назавуць іх. Але ў гэтым я бачу хутчэй пазіцыю дзяржавы – пазіцыю пастрымання ў адносінах да праблем, якія крычаць, але якіх пакуль што грамадства не чуе.

*Валянцін Яцухна. Родам з Ельска Гомельскай вобласці. Закончыў Белдзяржуніверсітэт, геафак. Загадчык навукова-даследчай лабараторыі экалогіі ландшафтаў гэтага ж універсітэта, доктар сельскагаспадарчых навук.*

**Іна Зеніна**

## Не страціць код жыцця

Мяне ў пэўным сэнсе абнадзейвае абяцаная магчымасць далучэння Беларусі да Орхускай канвенцыі. Калі гэта адбудзецца, можна будзе хоць неяк думаць пра змену інфармацыйнай палітыкі міністэрстваў і ведамстваў, дзейнасць якіх альбо звязана, альбо датычыць нашых "зялёных" каштоўнасцяў. Гэтую сваю надзею я цалкам звязваю таксама з дзейнасцю асабліва ахоўных прыродных тэрыторыяў (запаведнікаў і нацыянальных паркаў) ці, больш дакладна, з праблемаю іх цяперашняй закрытасці перад шырокім грамадствам. За дзесяцігоддзі йснавання на разлегласцях СССР гэтыя тэрыторыі былі (і застаюцца па сённяшні дзень) прадметам канфліктаў паміж адміністрацыяй запаведніка і мясцовым насельніцтвам. Браканьерства, іншыя парушэнні запаведнага рэжыму ці проста неразуменне, навошта яны, запаведнікі, патрэбны – досыць тыповы дабор акалічнасцяў з'явы. Беларускія нерушы (апроч хіба што Белавежскай пушчы) так і не сталі сімваламі нацыянальнай гордасці, нашым усенародным здабыткам.

Мяркую, праблему такога кшталту зможа вырашыць палітыка адкрытасці. Запаведнікі са свайго боку павінны як мага больш паказваць сваю дзейнасць у сродках масавай інфармацыі, сваіх бюлетэнях або газетах, арыентаваных не на спецыялістаў, а на шырокае кола, праз музейныя формы асветы, асяродкі інфармацыі і сувязі з насельніцтвам ды інш. Права людзей на здаровае навакольнае асяроддзе і ўстойлівае развіццё сёння цяжка ўявіць без іншага права – права нашых нашчадкаў на эталонныя тэрыторыі і ландшафты, на перахаваныя лясы і балоты, на запаведны код жыцця.

З другога боку, журналісты, лідэры грамадскіх рухаў, творчых суполак, мастакі, пісьменнікі, рэжысёры павінны без праблемаў атрымаць про-

працяг стар. 6



** калгас, дзе стаіць гэты паўразбураны храм, дагэтуль носіць імя Леніна. У раённых зводках дзесяцігоддзямі значыліся паказчыкі ад надояў малака дзяржаве", аб тонах і цэнтнерах вырашчанага ўраджаю, але ніколі ў іх не траплялі паказчыкі якасці асяроддзя, у якім чалавек працаваў і жыў.*

*Нясвіжскі раён, 1996*
*Фота: Валерый Дранчук*

*са стар. 5*

пускі і наведаць, калі захочуць, тэрыторыю любога запаведніка, сабраць матэрыял для сваіх рэпартажаў, нарысаў, фільмаў і г.д., данесці свае ўражанні да грамадскасці, а заадно даць незалежную ацэнку стану і ступені захаванасці або парушанасці прыродных комплексаў.

**Іна Зеніна**. *Нарадзілася ў Мазыры. Закончыла біялагічны факультэт Гомельскага ўніверсітэта. Жыве ў Тураве, працуе ў Нацыянальным парку "Прыпяцкі" (былы ландшафтна-гідралагічны запаведнік).*

Яўген Ц е р а х а ў

## Белыя плямы ў заканадаўстве. Замест зялёных

Заканадаўства, якое б ахоўвала экалагічныя правы грамадзянаў, як мне падаецца, сёння ў нашай дзяржаве наогул не існуе. І весці гаворку аб праве чалавека на здаровае навакольнае асяроддзе, з аднаго боку, вельмі патрэбна, а з другога – як бы заўчасна і марна, бо не існуе для гэтага ані тэхнічных, ані эканамічных, ані якіх іншых варункаў. Патлумачу на прыкладзе. Каб стан паветра ў гарадах зрабіўся больш–менш спрыяльны для здароўя, трэба адправіць на металалом 95 працэнтаў сучаснага аўтатранспарту, адрамантаваць пакрыццё на ўсіх без выключэння тратуарах і дарогах, вырасціць тысячы квадратных кіламетраў газонаў.

Цяпер найбольш эфектыўным мог бы стаць кодэкс законаў аб **экалагічнай бяспецы**, дзе вызначалася б адказнасць дзяржаўных установаў, юрыдычных і фізічных асобаў за прычыненне шкоды жыццю, здароўю, чужой маёмасці праз забруджванне навакольнага асяроддзя альбо ў выпадку ўзнікнення такой пагрозы.

Маючы адмысловы закон, кожны грамадзянін мог бы звярнуцца ў суд з зыскам супраць прадпрыемства ці гаспадаркі, калі шум ці брудное паветра шкодзяць яго здароўю, або сцёкі (у тым ліку з суседскага хлява) праз грунтовыя пласты атручваюць нітратамі ваду ў калодзежы.

Закон аб экалагічнай бяспецы даў бы магчымасць кожнаму грамадзяніну ці юрыдычнай асобе абараніць свае правы ў судзе і атрымаць матэрыяльную кампенсацыю. У рэшце рэшт, выкананне законаў залежыць ад таго, наколькі актыўна грамадства гэтага дамагаецца.

***Яўген Церахаў.*** *Педагог-эколаг, публіцыст, аўтар шматлікіх экалагічных праектаў. Закончыў універсітэт. Працуе ў Лошыцкім парку (Мінск).*



* *кожнае дзіця мае неад'емнае права на жыццё, а дзяржава забяспечвае выжыванне і здаровае развіццё дзіцяці. На жаль, і пасля Чарнобыля грамадства не здолела аб'яднацца ў лепшых памкненнях. Відаць, гэта ўжо зробяць дзеці.*

*Фота: Валерый Дранчук*

права на жыццё ў здаровым асяроддзі могуць застацца неўжыванымі і правы, пра якія гаворым куды часцей, — сацыяльна-эканамічныя, палітычныя ды іншыя.

Паводле канстутыцыйнай нормы і асобных палажэнняў *закона "Аб ахове навакольнага асяроддзя"*, права на спрыяльнае навакольнае асяроддзе дэкларуе перш-наперш пражыванне ў бяспечным для жыцця і здароўя людзей прыродным асяроддзі, а таксама права патрабаваць праз суд кампенсацыі ўчыненай шкоды ў выніку адзначаных парушэнняў.

Аналіз экалагічнага заканадаўства Беларусі дае падставы спыніць увагу й на іншых праўных элементах, якімі можа карыстацца любы грамадзянін краіны. Гэта:

1) права на атрыманне, захоўванне й распаўсюджванне поўнай, праўдзівай, своечасовай інфармацыі пра стан навакольнага асяроддзя;

2) права на ўдзел у працэсе прыняцця экалагічна значных рашэнняў;

3) права на абскарджанне ( у тым ліку ў судзе) антыпраўных дзеянняў, якія дапушчаны ці дапускаюцца органамі дзяржаўнага кіравання і адказных асобаў.

Разгледзім больш падрабязна кожную пазіцыю. І Канстытуцыя, і закон *"Аб зваротах грамадзянаў"* гарантуе права кожнаму чалавеку ці групе людзей ставіць пытанне перад любым дзяржаўным органам аб дачы экалагічнай інфармацыі. Зварот, у якім замоўлены законныя інтарэсы грамадзянаў ( у нашым выпадку на бяспечнае асяроддзе), мусіць быць разгледжаны на працягу месяца, а той, які не патрабуе дадатковага вывучэння і праверкі,– не пазней як праз 15 дзён. У выключных выпадках тэрмін можа быць падоўжаны да двух месяцаў. Калі гэты парадак парушаны альбо грамадзяніну беспадстаўна адмовілі ў дачы інфармацыі, ён можа падаваць у суд з патрабаваннем кампенсацыі маральных стратаў з-за парушэння ягоных правоў.

Аднак варта памятаць, што ў нашым дзейным заканадаўстве ёсць нормы, якія часта перашкаджаюць атрымаць тыя ці іншыя экалагічныя звесткі. Прыкладам, у артыкуле 34 Канстытуцыі права на інфармацыю пэўным чынам абмяжоўваецца; адпаведна з гэтаю нормай, дзяржаўныя органы абавязаны даваць магчымасць заяўніку азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць *ягоныя правы* і *законныя інтарэсы*. Праўда, закон не вызначае крытэрыяў гэтай зацікаўленасці, і орган, які разглядае заяву, вольны суб'ектыўна вырашаць пытанне "даваць альбо не даваць?", адмаўляючы, скажам, грамадскай арганізацыі, якая зарэгістравана ў Мінску, адкрываць звесткі пра стан забруджанасці возера Нарач.

Яшчэ адной праблемай рэалізацыі права грамадзянаў на інфармацыю пра стан навакольнага асяроддзя ёсць патэнцыяльная закрытасць інфармацыі. З аднаго боку, паводле артыкула 7 закона *"Аб дзяржаўных сакрэтах"*, звесткі не могуць быць аднесеныя да дзяржаўных сакрэтаў, калі гэта "... скажае рэальнае становішча ў галіне экалогіі і аховы здароўя". Такая агульная й незразумелая фармулёўка хутчэй не выключае (чым выключае) магчымасць засакрэціць экалагічную інфармацыю, асабліва, калі мець на ўвазе, што Мінпрыроды ўваходзіць у спіс ведамстваў, якія забяспечваюць ахову дзяржсакрэтаў. З другога боку, паводле закона *"Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь"*, пад камерцыйнаю тайнай трэба разумець звесткі, звязаныя з вытворчасцю, тэхналагічнай інфармацыяй, ... іншай дзейнасцю прадпрыемства, выданне якіх можа прычыніць шкоду яго інтарэсам. Ва ўмовах, калі якасць і аб'ём звестак, якія складаюць камерцыйную тайну, а таксама парадак іхняй аховы вызначае кіраўнік прадпрыемства, любы запыт грамадскасці, скажам, пра выкіды ў навакольнае асяроддзе будзе расцэнены як замах на камерцыйную тайну (падаецца магчымы скрайні варыянт і не выключаецца іншы, у тым ліку больш станоўчы – ***рэд.***)

Такім чынам, маючы пэўную неразвітнасць нацыянальнага заканадаўства, рана гаварыць пра поўную рэалізацыю права грамадзянаў на экалагічную інфармацыю, без якой і ўздзел грамадскасці ў прыняцці экалагічна значных рашэнняў мусіць зведваць абмежаванні. Якія ж формы і сродкі такога ўдзелу?

Адпаведна з законам *"Аб санітарна-эпідэмічным дабрабыце насельніцтва"* грамадзяне маюць права, непасрэдна альбо праз грамадскія арганізацыі, браць удзел у распрацоўцы, абмеркаванні й прыняцці ўладамі рашэнняў, скіраваных на забеспячэнне санэпідэмічнага спрыяння насельніцтву. На падставе палажэнняў закона *"Аб ахове навакольнага асяроддзя"* грамадзяне вольныя ў праве падаваць прапановы аб забароне размяшчэння, спыненні праектавання, будаўніцтва, эксплуатацыі аб'ектаў, якія адмоўна ўплываюць на асяроддзе; грамадскія суполкі маюць права браць удзел у дзяржаўнай экалагічнай экспертызе сумніўных аб'ектаў ці ладзіць сваю, грамадскую экспертызу.

Аднак на заканадаўчым узроўні не пазначаны абавязкі дзяржаўных органаў і адказных асобаў, якім чынам павінна ўлічвацца грамадская думка, – у рэшце рэшт, яна мае ўсяго толькі рэкамендацыйны характар і можа быць праігнаравана.

Надзвычай дзейным механізмам у працэсе прыняцця экалагічна значных рашэнняў з'яўляецца правядзенне мясцовых рэферэндумаў па пытаннях, якія маюць немалую вагу ў сацыяльным жыцці той ці іншай тэрыторыі. Напрыклад, шляхам рэфе-

* *маштабная меліярацыя, якая запанавала ва ўсёй Беларусі з 60-х гадоў, парушыла не адно адвечныя краявіды, але й генетычную трываласць нацыі.*

*Фота: Валерый Дранчук*



## ПРАВА VETA

*Старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Уладзімір Бойка ў інтэрв'ю дзяржаўнай газеце выклаў ацэнкі, якія могуць яскрава пасведчыць пра антыэкалагічную палітыку нашай краіны, несумяшчальную з правам чалавека на бяспечнае навакольнае асяроддзе.*

## Суд канстатуе...

**"Сёння можна казаць пра адкрытую халатнасць некаторых гаспадарчых суб'ектаў і іх самавольства ў адносінах да прыроды, пра пашырэнне маштабаў радыеактыўнага забруджвання і павелічэнні асабліва неспрыяльных экалагічных зонаў у месцах канцэнтрацыі хімічнай і нафтаперапрацоўчай прамысловасці. Акрамя таго, павялічваецца рызыка тэхнагенных катастроф, звязаных, з аднаго боку, са значным зносам вытворчага абсталявання, з другога – з шырокім прымяненнем недасканалых тэхналогій у прамысловасці і энергетыцы"**

**"Сапраўдным няшчасцем для навакольнага асяроддзя з'яўляецца эканамічная незацікаўленасць прадпрыемстваў у эфектыўнай прыродаахоўнай дзейнасці, нізкія аб'ёмы фінансавання ахоўных мерапрыемстваў. У выніку ўзровень ахоўных збудаванняў на шэрагу фабрык, заводаў абуральна нізкі.**

*"Звязда", 3 лістапада 1998.*

Алена Л а е ў с к а я

## Закон ёсць. А права?

*Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь* дэкларуе ў артыкуле 46 права грамадзяніна на спрыяльнае навакольнае асяроддзе. У кожнага з нас, такім чынам, з'явілася яшчэ адна падстава сказаць: "Я маю права...". Падстава, між тым, першарадная і выключная. Без належнай рэалізацыі такога натуральнага права, як

 



рэндуму жыхары украінскага сяла Альхоўка далі рады спыніць размяшчэнне звалкі адходаў, праект якой меў досыць антыпраўны характар.

Яшчэ адзін напрамак рэалізацыі сваіх правоў – магчымасць абскарджання дзеянняў органаў дзяржавы або адказных асобаў у вышэйшы орган ці ў суд. Варта помніць, што абскардзіць можна любое дзеянне, якое супярэчыць праву грамадзяніна на спрыяльнае экалагічнае асяроддзе. Скарга ў суд павінна быць пададзена ў месячны тэрмін пасля таго, як вышэйшы орган ці адказная асоба не задаволілі аўтараў заявы. На жаль, гэтым правам грамадзяне карыстаюцца вельмі рэдка, што сведчыць як пра слабую актыўнасць людзей у адстойванні сваіх экалагічных правоў, так і пра недастатковую праўную прапаганду.

За новае ў заканадаўстве можна ўважыць замацаваную магчымасць выстаўлення ў судзе зыскавых патрабаванняў аб супыненні экалагічна шкоднай дзейнасці (закон *"Аб ахове навакольнага асяроддзя"*). Аднак, норма небездакорная і патрабуе ўдасканалення, запасу практыкі і досведу, каб з яе дапамогаю можна было эфектыўна вырашаць сённяшнія праблемы. Напрыклад, паняцце "экалагічна небяспечныя аб`екты" заканадаўствам не раскрываецца, нарматыўныя межы такой дзейнасці не пазначаныя. Гэта ўскладнне фармуляванне і адстойванне зыскавых патрабаванняў. Варта таксама, як гэта ёсць у іншых дзяржавах, замацаваць магчымасць звяртацца з зыскамі аб прыпыненні экалагічна небяспечнай дзейнасці не адно грамадскім арганізацыям, але і асобным грамадзянам.

Якія ж высновы? Мяркую, сённяшняе заканадаўста замацоўвае толькі агульныя палажэнні аб праве на спрыяльнае навакольнае асяроддзе і мае патрэбу ў грунтоўных дапрацоўках, што вынікае таксама з прынцыпаў Дэкларацыі па навакольным асяроддзі і развіцці (Рыа-дэ-Жанейра, 1992). Спадчына чарнобыльскай бяды абавязвае ўсіх нас да большага, менавіта – да актыўных і выніковых дзеянняў у адстойванні першаіснага права на жыццё.

***Алена Лаеўская*** *родам з Мінска. Закончыла юрфак Белдзяржуніверсітэта. Абараніла кандыдацкую дысертацыю па экалагічнаму праву, ачольвае кафедру праўных дысцыплін інстытута кіравання.*

* *права на жыццё застаецца не толькі з чалавекам, яно датычыць і роду ўсяго жывога, з кім чалавецтва павінна дзяліцца экасістэмай*

**Міхаіл П а с т у х о ў**

# Каралеўскі падарунак нарэшце дойдзе і да Беларусі...

Еўрапейскі кантынент пераважнаю большасцю краін сёння ўжо не абыходзіцца без амбудсмена – упаўнаважанага па правах чалавека. Як вядома, ідэя заснавання такой пасады прыйшла з XVI стагоддзя са Швецыі, калі кароль ішоў на вайну і на час сваёй адсутнасці прызначаў аўтарытэтнага чалавека, свайго прадстаўніка, каб той глядзеў за парадкам у краіне. Неўзабаве ідэя знайшла свой працяг у Фінляндыі, Нарвегіі, іншых дзяржавах, дзе і ўвасобілася ў пасаду, на якую прызначаліся паважаныя людзі з мэтай кантраляваць дзеянні ўлады ў плане захавання правоў падданага люду. Сёння больш як 30 еўрапейскіх краін маюць пасаду ўпаўнаважанага па правах чалавека. Да іх нядаўна далучылася і Украіна, чым мусіла пацвердзіць еўрапейскі стандарт; такая неабходнасць паўстала з уступленнем краіны ў Раду Еўропы і выкананнем адной з умоў знаходжання ў гэтай арганізацыі.

Сфера інтарэсаў упаўнаважанага па правах чалавека досыць шырокая. Амбудсмен, маючы поўную незалежнасць паводле свайго статусу, павінен рэагаваць на ўсе факты парушэння правоў грамадзянаў, у тым ліку гарантаванага Канстытуцыяй – і 1994-га года, і апошняй – права на спрыяльнае навакольнае асяроддзе. Гэта значыць, грамадзяне Беларусі, калі пасада ўпаўнаважанага будзе зацверджана, змогуць сва-бодна падаваць петыцыі па ўсіх вы-падках забруджвання навакольнага асяроддзя ў выніку незаконных дзеянняў улады, прадпрыемстваў і ўстаноў і чакаць ад амбудсмена канкрэтных захадаў. Кожная справа мусіць быць даведзенаю да лагічнага канца. Калі ж упаўнаважаны абмежаваны ў праве зрабіць гэта сам, ён абавязаны перадаць матэрыял за сваім подпісам у прыродаахоўную пракуратуру ці паставіць на парадак дня парламента, звярнуцца ў іншыя кампетэнтныя органы. Не прынятыя або неадэкватныя дзеянні з боку адказных асобаў могуць стаць падставай для ўпаўнаважанага, каб прыцягнуць іх да крымінальнай адказнасці, зняць з пасады і інш.

Дагэтуль артыкул 46 Канстытуцыі Беларусі на справе не дзейнічае. Не было выпадкаў, каб пракуратура запатрабавала ад пэўных органаў, устаноў ці ведамстваў кампенсаваць шкоду, прычыненую здароўю насельніцтва. Адзін з яскравых прыкладаў сацыяльнага занядбальства– вынікі Чарнобыльскай трагедыі: сёння ўрад быццам забываецца на свае абавязкі перад жыхарамі, якія пацярпелі і працягваюць цярпець. Людзі змірыліся са сваім гаротным становішчам, бо не ведаюць, у якія дзверы ім стукацца ды дзе шукаць праўду, перад кім выстаўляць свае права.

На жаль, цяпер, калі ў Беларусі пануе антыдэмакратычны рэжым, уводзіць пасаду амбудсмена не мае ніякага сэнсу: гэта будзе цалкам бутафорская фігура, усе пытанні так ці інакш пачнуць замыкацца на адміністрацыі прэзідэнта. Марна ў такіх умовах нават ініцыяваць заснаванне пасады, хоць мы распрацавалі альтэрнатыўны праект закона, у якім бачым фігуру амбудсмена цалкам незалежнай: са сваім бюджэтам на год, магчымасцю набіраць штат людзей, планаваць і арганізоўваць сваю дзейнасць; пасада будзе ініцыявана і заснавана тады, калі ў Беларусь вернецца законнасць, дэмакратыя і павага да правоў чалавека. Гэта будзе сапраўды "каралеўскі падарунак" нашай краіне, і пасада амбудсмена з`явіцца, несумненна, новаю дадатковай гарантыяй абароны правоў чалавека, разам з тым і правоў на спрыяльнае навакольнае асяроддзе з поўнай кампенсацыяй прычыненай шкоды. У такім разе артыкул 46 Канстытуцыі спраўдзіцца і ў сваёй лепшай якасці, і кожны грамадзянін суверэннай Беларусі зможа рэальна разлічваць на яго выкананне.

***Міхаіл Пастухоў.*** *Былы суддзя Канстытуцыйнага суда, доктар юрыдычных навук, прафесар. Апошні час спецыялізуецца на абароне правоў чалавека і свабоды слова ў Беларусі.*

## ПУЖОК LAWN

*Трэцякласнікі Сеніцкай школы Мінскага раёна, дзе настаўніцай спадарыня Алена Шнаркевіч, прапануюць для нашага выпуска свой першы твор на тэму* ***"Любіць прыроду"****. Тэма конкурсная і будзе працягвацца ўвесь наступны год. Аўтары лепшых дасланых твораў атрымаюць прызы.*

# "Я люблю..."

**Я** люблю прыроду за тое, што яна нас корміць і дбае пра нас. Бог стварыў прыроду дзеля дабра чалавека, даў нам права карыстацца яе незлічоным багаццем. І таму я ўдзячны і вельмі люблю прыроду. ***Павел Булаўка***

**Мне** даспадобы ўсё, што дае і стварае прырода: лугавыя краскі, сады, гронкі рабіны, водар паветра. Як добра дыхаецца ў лесе ці ў лузе ля рэчкі! Без прыроды мы не зможам жыць. ***Марына Лукашэвіч***

**Я** люблю прыроду за яе мацярынскі клопат, за яе мілы чароўны воблік. Я часцінка вялікай прыроды і маю да яе вялікую закаханасць. ***Насця Каржэнка***

**Прырода** надзвычай прыгожая. Таму чалавек яе любіць і стараецца абараняць ад варварства і вынішчэння. Асабліва трэба берагчы наш лес. Ён дае нам чыстае свежае паветра, добры настрой, энергію. Я люблю хадзіць па лесе. На кары старых дрэў шмат жучкоў і кузурак. У кронах спяваюць птушкі. Растуць гаючыя зёлкі, грыбы, ягады. Нават зімой у лесе цікава і казачна. Прырода мае жыццядайную сілу і шчодра дзеліцца з чалавекам. Я таксама люблю прыроду за тое, што яна мне спрыяе жыць. ***Юра Мірошкін***

**Прырода** – гэта рэчкі, азёры, кветкі, палі, краявіды. Я люблю Белавежскую пушчу, была ў Бярэзінскім запаведніку, бачыла там мядзведзяў, дзікоў, ласёў. Я зразумела, дзеля чаго ёсць прырода і чаму чалавек павінен яе берагчы. ***Таццяна Хадкевіч***

*Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел!*



 

# Культура і прырода

## Ян Паўлікоўскі: "Нашы бацькі, збіраючыся ў выгнанне, бралі з сабою жменю роднай зямлі і насілі яе ў капшуках, не здымаючы з грудзей, каб у труне пасыпаць ёю на вочы ды каб вечна бачыць тую зямлю перад сабою."

Прырода ёсць ваннаю, поўнай свежага водару, якая вяртае моцу ў людскіх патужнасцях, паўстае перад намі ціхай святыняю, месцам ачышчэння ад усяго, што наліпла на нас чужога й змарнелага, — месцам меры й вагі, месцам справядлівага суда, месцам, якое бачыш здалёку, з гледзішча вечнасці, яна, ў рэшце рэшт, — месца ўзнёслае думкі, вольнай і ўласнай, не абнясіленай гнётам абставінаў. Гэтае месца шукае не які-небудзь там непапраўны самотнік дзеля таго, каб забыцца і ціха памерці, або лянотны сноб – каб схавацца ад абавязкаў, а рыцар наконадні бою, работнік перад нялёгкаю працай. Антэй, які перад тым, як спаборнічаць, кранаецца жыццядайнага ўлоння маці-зямлі.

Сярод іншых частак, што ўплываюць на характар пачуццёвых стасункаў чалавека з прыродай, ёсць адна, якой належыць вялікая роля. Гэта повязь з радзімай. Пачуццё арганічнае і вечнае; людзі хварэюць і паміраюць ад маркоты па мілых родных мясцінах. Пачуццё гэта старэйшае за сённяшняе паняцце любві да Радзімы, таму што ў паняцце Радзіма, апроч характарыстык геаграфічных і этнаграфічных, закладзены таксама прыкметы гістарычныя і законна-дзяржаўныя. Але паняцці Радзіма і любоў да яе нарадзіліся і паўсталі з гэтага сціплага зернетка*. І дагэтуль просты чалавек сваёй радзімай называе сяло і блізкія ваколіцы. У немцаў на гэта ёсць добрая назва – "Heimat", якога нам ды іншым народам бракуе. Калі гаварыць пра зямлю як тэрыторыю з яе прыроднымі асаблівасцямі, дык у гэткім выпадку любнае парыванне да радзімай зямелькі ёсць уласна адно ідэальнай праекцыяй рэальнага ды змежанага пачуцця, якое лучыць нас з паняццем "Heimat", з зямной радзімай у найшчаслівым сэнсе. Міцкевіч, калі гаворыць "Літва, мая Бацькаўшчына!", не ўхваляе сепаратызм літоўскі**, але бачыць хараство Радзімы няйнакш, чым праз прызму зямлі, што яго нарадзіла .

...У чалавека, любімага намі, можам любіць адну асобную рысу, але праз яе -- любіць і ўсяго чалавека. Даследаваннем гэтае акалічнасці варта было б заняцца навуцы, і ў выхаванні любові да Бацькаўшчыны варта паставіцца так, каб любоў да родных мясцін як часткі вялікай Радзімы, займала больш увагі, чым дагэтуль. Пазнанне гэтае часткі ёсць першашляхам да выхавання шчырай любові. Настаўнікі толькі прыдбалі б, калі б узялі гэта ў сваю праграму, бо ў іх з'явіўся б бліжэйшы шлях да паяднання школьнай праграмы з жыццём, ажывіў бы тую навуку іскраю пачуцця. У рэшце рэшт любоў да зямлі, якая дала пачатак, у канкрэтным святле, і ў тым разуменні, што чалавеку працуецца лепш у родных мясцінах, можа стацца магутным рухавіком культуры. Любоў гэта мае на ўвазе пашану да помнікаў гэтай зямлі, прыбіранне хібаў на яе ўлюбёным аблічы, клопат пра яе прыгаства. Шмат чаго можна ўзяць у немцаў з таго, што стаіць за словамі "Ведаць Радзіму", або "Клопат пра Радзіму".



Ляхавіцкі строй. Пачатак XX ст.

"Пан Тадэвуш" ёсць для нас цудоўнай кнігай не адно як эпас нашых дзеяў, але і як эпас нашай зямлі і неба. Ці то паэзія гэтаму нас навучыла, ці то мы і паэзія мелі аднаго настаўніка ў недрах зямлі, бо здаецца, што і горы, і стэпы, і палі, і вада могуць гаварыць на той жа мове, што і мы, адчуваць боль і радасць як і людзі. Само паветра ў іншых месцах не можа абаймаць нас гэтак любна, па-мацярынску.

Такім чынам, прырода праз усведамленне арганічнай сувязі, крэўнай сувязі ўвабрала ў сябе дух і новую каштоўнасць. Адной з прычын абуджэння грамадскага адчування прыроды было вострае ўсведамленне таго, як адлучыліся мы ад яе. І гэта тое, што мы бачылі ў Русо. Але ўсё больш пагрозліва насоўваецца адчуванне іншае страты; нібы абуджаныя раптам ад невідушчасці й раўнадушша, бачым, як з аблічча маці знікае краса і находзіць цянёта хваробы. Трывога незваротнае страты бясцэннага скарбу распальвае іскры любові, што не паспела загаснуць.

Калі мы задамося мэтаю ўзнавіць генеалагічна ідэі аховы прыроды, яшчэ невядома, дзе нам лепей шукаць – вельмі далёка ці вельмі блізка. Бо з тварэннямі прыроды чалавека ядналі шматлікія й разнастайныя сувязі, і ён заўсёды імкнуўся перахоўваць тыя з іх, ад якіх быў залежны. Але не там варта шукаць пачатак ідэі. Ідэя аховы прыроды пачынаецца там, дзе ахоўнік робіць гэта не для матэрыяльнай карысці, не дзеля звязанай з цудам прыроды чужой яму гістарычнай або іншай каштоўнасці, а дзеля самой прыроды, дзеля таго, каб знаходзіць ў ёй ідэальныя каштоўнасці. Прыклады такога стаўлення памна-

* сёння ў гэтым значэнні шырока ўжываюцца словы "малая радзіма".

** як вядома, "Літвой" А. Міцкевіча была Беларусь, яго родная Навагрудчына — рэд.





*Імя выбітнага польскага публіцыста, доктара эканомікі і доктара права Яна Паўлікоўскага (1860-1939) амаль невядомае ў Беларусі. Зрэшты, і ў Польшчы далёка не кожны гуманітарый прыгадае класічную працу "Культура і прырода", якая калісьці прынесла 53-гадоваму аўтару еўрапейскую вядомасць як ідэолага прыродааховы. Год яе выдання - 1913, месца - горад Львоў. Тое, пра што напісаў Ян Паўлікоўскі 85 гадоў таму і што з такім вялікім спазненнем прыходзіць да нас, мае ўласцівасць вечна трывалага пачуцця, здольнага кранаць сэрцы кожнага патрыёта, які жыве ў сённяшнім дні, дбаючы пра сваё, роднае. У тым жа, 1913-м, клікаў сыноў Беларусі шукаць "Бацькаўшчыну блізка", а не дзесьці "за шырокім сінім морам" і Янка Купала. З ім як бы пагаджаўся Ян Паўлікоўскі: "Само паветра ў іншых месцах не можа абаймаць нас гэтак любна, па-мацярынску". Цудоўнае суладдзе думак!*

## Беларускія журналісты-экалагісты збяруцца на з'езд

*Газета "Белавежская пушча", якая развівае традыцыі экалагічнага інтэрпрэтатарства і экапрапаганды, звярнулася ў шэраг інстанцый з ініцыятывай правесці сустрэчу беларускіх журналістаў, што пішуць на тэмы навакольнага асяроддзя, экаэтыкі і выхавання. Мяркуецца сабраць шырокае кола калег-прырода-любаў з усіх абласцей краіны. Звяртаемся да тых, каго блізка цікавіць тэма экажурналістыкі: штосьці прапанаваць, удакладніць Вы можаце, скарыстаўшыся адрасам газеты альбо факсам у Мінску: 220-23-53 (для газеты "Белавежская пушча").*



* *спадчына слыннага фотамайстра й этнографа Яна Булгака (1876—1950) перахоўвае нямала малюнкаў зімовае Беларушчыны.*

жаюцца і пачынаюць набываць форму характэрнае з'явы, тым часам, калі, з аднаго боку, пачуцці чалавека да прыроды ўзмацняюцца, з другога – умовы эканамічнага жыцця ствараюць новыя пагрозы. Тады пачынаецца прапаганда ідэі. Гэтую ідэю развівалі людзі вядомыя і слынныя, і сярод іх – Джон Роскін. Праўда, часцей гэта былі невядомыя пачынальнікі. Першы плён засведчаны ў выглядзе фактаў аховы прыроды, колькасць якіх пачашчалася й датычыла як запаведнікаў, так і прыватных уладанняў. Толькі на гэткім грунце і пачынаецца дзейнасць сістэматычная: ідэя далучаецца да грамадскага жыцця, ствараецца арганізацыя, спачатку, вядома, у форме суполак ахвотных. Почасту арганізацыі, маючы іншыя мэты, таксама займаюцца прыродаахоўвай. Прыкладам, таварыствы па паляпшэнні знешняга выгляду ваколіцаў мяняюць свой кірунак і фармуюцца далей як таварыствы па ахове прыроды ваколіцаў...

Мяркуючы, што стасункі чалавека з прыродай разнастайныя, матывы аховы прыроды таксама могуць быць розныя. Уласна ў кожным выпадку ёсць свой матыў. Перавага пэўных матываў надае арганізацыям і заканадаўству розных краін адметныя рысы. Так, у прускай арганізацыі на першы план выходзіць прыродазнаўчы матыў. У "Правілах", што рэгулююць дзейнасць уладаў па ахове помнікаў прыроды, чытаем такое акрэсленне паняцця "помнік прыроды":

*"Пад помнікам прыроды варта разумець асабліва характэрнае тварэнне прыроды роднага краю, перш-наперш такое, якое знаходзіцца на сваім родным месцы, — альбо гэта частка ландшафта, альбо помнік расліннага ці жывёльнага свету".*

Конвенц гэтыя расплывістыя акрэсленні камeнтуе такім чынам, што гаворка ідзе перш-наперш пра тыя тварэнні, якія ёсць помнікамі і сведкамі прыроды першаіснай, а ўжо затым "помнікамі" ва ўласным іхнім значэнні.

Паводле законаў Альдэнбурга, помнікі прыроды – гэта характэрныя творы прыроды, захаванне асобных з іх, з пункту гледжання прыроднай, гістарычнай ці эстэтычнай каштоўнасці, служыць інтарэсам грамадскасці. Французскае Палажэнне 1906 г. тлумачыць, што ахове належыць і зямельная ўласнасць, што яе захаванне ў залежнасці ад маляўнічасці і каштоўнасці артыстычнай таксама можа мець інтарэс грамадскасці. Тут погляд эстэтычны відочна пераважае. У складзе французскіх дэпартаментавых камісій — знаўцы, выбраныя генеральнаю радай "з сфераў артыстычных, навуковых і літаратурных". Ахова помнікаў прыроды, якія маюць выключна адно прыродазнаўчае значэнне, у Францыі не існуе.

Нарэшце, трэцім матывам аховы, які ў некаторых арганізацыях паўстае як рашаючы, становіцца матыў пачуццёва-патрыятычны, гэта значыць, погляд на зберажэнне й перахаванне ўласцівых і дарагіх душы рысаў роднай зямлі. Тут не мае значэння, валодае той ці іншы прыродны твор каштоўнасцю эстэтычнай, або з'яўляецца расліна ці жывёліна рэдкімі відамі, якія абавязкова трэба перахоўваць для памяці, ці не з'яўляецца. Не абавязкова павінна прысутнічаць і гістарычная асацыяцыя з тварэннямі прыроды — тут важная традыцыйная рыса, характэрная для роднай зямлі, якая сталася часткай нашых пачуццяў. Вядома, не толькі прырода мае гэтыя рысы, але й здабыткі людскія: дом, адзенне, звычаі. Таварыства пад назваю "Ахова роднай зямлі" і нямецкі цэнтральны "Саюз аховы роднай зямлі" вельмі выразна падкрэсліваюць у сваіх стасунках гэты прыродаахоўны напрамак.

У нас Варшаўскае таварыства натуралістаў падало ідэю стварэння запаведнікаў у Татрах. Калі б гэтая думка й магла ажыццявіцца, дык, вядома ж, не пад лозунгам чыста прыродазнаўчага інтарэсу. Першачарговую ролю мелі б пачуццёвыя кампаненты вельмі няпростага складу. Іхняй адметнасцю стала б прывязванне да куточка роднай зямлі, дзе хацелася б захаваць некранутую прыроду, а ўласцівае пачуццё эстэтыкі ды яшчэ выразнейшы сентымент да дзікай і першабытнай прыроды, які б адцяняў і паказваў адносіны сучаснага чалавека да прыроды. Без разумення гэтага немагчыма ўсвядоміць належным чынам адносіны сучаснай культуры да прыроды, а таксама і справу аховы прыроды. Апроч разнастайных рэальных аргументаў, якія стаяць за гэтай справай, яшчэ існуе, так бы мовіць, бок метафізічны, схаваны і ўсё ж вырашальны, бок пачуццёвы. Рухавіком кожнага ўчынку ёсць пачуццё — усе разумныя прычыны другарадныя.

Усё гэта мае і практычнае значэнне: захаванне ў Татрах першароднай прыроды ёсць назапашваннем іхняй каштоўнасці. Няма ў сярэдняй Еўропе іншага месца, якому б лёс пакінуў шмат рысаў першароднасці і якое б гэтага так было варта. Каштоўнасць мясціны вырастае з кожным днём, у гэтым напрамку ідзе развіццё. Толькі людзі разумеюць гэта надта позна.

*Львоў, 1913*



* *гэткая Беларусь паўстае сёння часцей з рэпрадукцый ды архіўных фотаадбіткаў. А магла б захавацца мноствам куточкаў-мясцінаў, калі б, апроч войнаў, іх не знішчала вынішчальная палітыка ўладных невуцтва й людскога раўнадушша.*

SUMMARY

***It's a little known article "Culture and Nature" (Lvov, 1913) by the Polish scientist and publicist Yan Pavlikovsky (1860-1939) published here.***



# Белавежская пушча: каляндар прыроды

**Віктар Бахараў**

*Са шчымлівым пачуццём успамінаю свае лепшыя гады жыцця і працы ў Белавежскай пушчы. Трапіў туды воляй лёсу, нават выключнага выпадку, калі скончыў аспірантуру. Прыехаў, убачыў і сэрца маё засталося там.*

*Пушча-ўладарка. Магутная, прыгожая, шчодрая. І зразумее, і дарuе, і паблажліва спагадае. Я спатыкаўся ў Пушчы з ваўком і не зразумеў на той момант, што гэта быў.. воўк. Дагэтуль дзіву даюся, калі ўспамінаю, як на ровары ледзь не наехаў на... маладога рысяў ў траве.*

*Пушча-захавальніца. Пераховўвае багацце малых і вялікіх тайніцаў. Большасцю неразгаданых чалавекам. Мне захацелася праз каляндар прыроды далучыць чытачоў газеты да маленькіх фрагментаў і сведчанняў, якія найбольш уразілі і ўзрушылі мяне, засталіся ў памяці, час ад часу спанукаючы ўзяцца за асадку і што-кольвек перадаць на словах.*

## Студзень

Макаўка зімы, Новы год і яшчэ шмат чаго, што мае тут свой працяг і зварот. Найперш, канешне, Новагоддзе й Каляды. Лясныя жыхары сустракаюць свята па-рознаму. Урачыстасць моманту, відаць, першымі адчуюць пушчанскія волаты – зубры. Напярэдадні першага дня гаваркія егеры не ўтояць сваёй шчодрасці, падкінуць у скрыні лішнюю порцыю сена ды буракоў. Заяц-русак заўважае незвычайную жвавасць ды чуткасць вясковых сабак і ўжо не рызыкуе падбірацца да маладых яблынь, а шукае шчасця ў больш ціхіх мясцінах. Аднак знаходзяцца й гарачыя галовы; заўважаныя не бліжэй краю вясковай вуліцы, даюць падставу сабакам падняць сярод ночы дружны брэх. Заяц-бяляк больш асцярожны і не здольны на гэткае глупства. Яму больш даспадобы "застолле" лясных міжквартальных прасекаў, рэдкалессе, дзе можна заўсёды пагрызці кары маладзенькай асіны або вярбы. Часам на месцах жыравання іх збіраецца прыкметная кампанія — і весялей, і не так боязна. Ад пераследу лісы або драпежніка з ружжом выручаюць вядомыя зайцавы хітрыкі: след пятлёй, ход "у пяту", кемнасць.

Рыжая ліса не мае спачыну. Гэта ўжо не лета, калі спажыва сама ў рот бяжыць. Цяпер і ў калядную ноч думай пра "хлеб надзённы". Месяц не ўзышоў, а ліса пакідае нару і бягом на луг мышэй лавіць. Мала снегу для яе – шчасце: лягчэй бегаць дый мыш выгнаць з нары куды прасцей. Паляўнічыя расказвалі, як падчас ловаў гучна падала рыжая з падскоку на мёрзлую зямлю. Нічога. Затое з мышшу! А натрапіць ліса на след зайца, тады ўжо – хто каго. Праўда, бывае, што паляўнічы азарт робіць яе неабачлівай. Аднойчы заўважыў на снезе касмыкі лісінай шкуры і тут жа воўчы след. Ізноў — хто каго?.. Падмануць шэрага не ўдалося.

Іншыя жыхары Пушчы ў гэты час зусім не маюць турботаў. Бурыя мядзведзі спяць у вальерах, дзе адмыслова для іх пабудаваны дамкі. Смокчуць лапу ды ўспамінаюць лета, салодкія гасцінцы наведнікаў. Барсукі і янотападобныя сабакі знайшлі сабе спакойныя спальні дзесьці ў глушыні Пушчы, далей ад чалавечага вока і следу.



А ў вавёрак свае адметныя сямейныя клопаты: дом прыбіраецца і старанна ўцяпляецца з нагоды чаканага патомства. З'яўленне на свет маленькіх вавёрчанятак можа здарыцца і ў навагоднюю ноч. Вось падарунак!

Чародка сінічак уселася ў кроне сасны і з самае раніцы чакае яркага сонейка; скупымі промнямі яно сагрэе кару і можна будзе хоць трохі пажывіцца лічынкамі.

Хто не праспіць навагоднюю ноч, дык гэта сава і пугач. Іх вялікія жоўтыя вочы бачаць, як з-за чорных галін на цёмна-сіняе неба ўсплывае месяц. Але пільнае вока драпежнікаў абавязкова ўсочыць, калі дзе побач прабяжыць мыш – далікатэс усіх соваў.

Тым часам у крыжадзюба-ялавіка, як і ў вавёркі, таксама сямейнае папаўненне. Навошта, здавалася б, у такую халадэчу выводзіць-гадаваць птушанят. Аднак прырода не памыляецца, зімовыя народзіны ў крыжадзюба звязаны з ураджаем яліны, якая адвечна і спраўна забяспечвае ягонае пакаленне вітамінамі росту. Будуць здаровыя плодныя ельнікі — не звядуцца і крыжадзюбы, гэтыя прыгожыя ярка-чырвоныя птушкі. Дарэчы, заспець крыжадзюба, калі ён апрацоўвае шышку, — лічы за ўдачу. Спрытна і хутка. Думаеш: на тое і дзюба ў яго адмысловая, каб вось так, без замінку даставаць з лускавінак смачнае насенне.

Цікавыя гісторыя ў гэты час адбываюцца ў жыцці вальерных жывёлаў. Адну раскажу. Неяк панадзіўся да вальеры з лесу дзік. Перасіліў аднойчы клыкамі дрот агароджы і праз гэты лаз праведў увесь статак у гушчар. Аднак вольнага пушчанскага ветру хапіла даверлівым свінням на два дні. Дружным натоўпам яны вярнуліся да вальера, наровячы трапіць у тую ж самую дзірку. Перабежчыкаў зразумелі, загналі ў вальеру і далі паесці. А сетку вальеры знізу грунтоўна ўмацавалі.

З сярэдзіны студзеня зіма ўсталёўваецца сваім поўным парадкам. Падкінула сняжку, мароз бярэцца штодня, кожная зорачка ў начным чорным небе выразніцца ярка і халадна-таямніча. Менавіта цяпер разумееш сэнс даўно чутых словаў: "Ярка зззяе халодная зорка".

*працяг на старонцы* **14**

S U M M A R Y

***A** scientist in the field of ecology Victor Bakharov describes the life of woods during the winter time (January and February). "Byelavezhskaya Pushcha" – this is the title of his article.*

## ЗЯЛЁНЫ ФРОНТ

# Беларусам трэба вучыцца рашуча заяўляць сваё "не", калі іх правы й інтарэсы ігнаруюцца і папіхаюцца дзяржавай, альбо 3 нагоды адной прапазіцыі

**Уладзя Ляская**

У органах вышэйшае ўлады Беларусі няма разумення прыярытэта Закона "Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб'ектах", — такую выснову робіць удзельнікі шматгадовай экспедыцыі "Дзеці зямлі". Грамадская экалагічная станцыя "Ольса" (г. Бабруйск) распаўсюдзіла заяву на падставе матэрыялаў, сабраных падчас экспедыцый у раёнах Свіслацка-Бярэзінскай часткі Беларусі. Вышэйназваны закон, адзначаецца ў заяве далей, хутчэй за ўсё быў прыняты з меркаваннаў даніны модзе, і яго рэальнае выкананне ў планах не стаяла, што і пасведчылі кантрольныя паказчыкі экспедыцыі. Пракуратура Рэспублікі Беларусь не вядзе назіранняў, якім чынам закон выконваецца, там ліквідаваны прыродаахоўныя пракуратуры, хоць досвед іншых краін паказвае на іх высокую эфектыўнасць. У падпарадкаваных службах Міністэрства лясной гаспадаркі няма ніякіх дакументаў, якія б датычылі выканання закона. Таму не дзіўна, адзначаецца ў заяве, што ўкараненне тэхналогіі лесаашчаджальных п а с т у п о в ы х высечак ідзе марудна, адно ў паасобных лясгасах. Няма й фінансавага забеспячэння, каб стымуляваць зацікаўленасць развіваць экалагічныя ды лесазберагальныя тэхналогіі.

Аўтары заявы не выпадкова нараканць на практыку заганных, так званых с у ц э л ь н ы х высечак лесу, што стварае праўдзівую экалагічную аварыю; узнаўлення параметраў экасістэмы, канстатуюць яны, пры гэтым не назіраецца, хіба што ў лепшым выпадку ёсць шматразовае іх паніжэнне. Навошта ж марнуюцца рэсурсы на ліквідацыю наследкаў, энергічна дапытваюцца экалагісты.

Сваёй заявай аўтары таксама кранаюцца сістэмы школьнага навучання. Міністэрства адукацыі Беларусі праводзіць рэальную экалагічную асвету ў адзінкавых, эксперыментальных варыянтах, а больш шырокага, грамадзянскага навучання сёння няма. Затое ёсць вынік – разбуральныя дзеянні ў сацыяльна-экалагічным асяроддзі.

8 снежня 1998 года актывісты экалагічнага руху, ачольнікі "Ольсы" Юры Познік ды Ігар Куталоўскі перадалі ў "органы вышэйшае ўлады" (персанальна Марыі Худой і Міхаілу Русаму ) подпісы прадстаўнікоў больш як дзесяці грамадскіх арганізацый пад тэкстам *петыцыі*, у якой гаворыцца:

*"Мы — члены грамадскіх экалагічных арганізацый Беларусі... просім Вас наладзіць грамадскія слуханні (канферэнцыю) аб ходзе выканання Закона "Аб асабліва ахоўных тэрыторыях і аб'ектах" на падставе артыкула 13 гэтага закона..."*

Такім чынам, ініцыявана канкрэтная справа, на якую хутчэй за ўсё адгукнуцца афіцыйныя прыродаахоўныя інстанцыі. Іншая справа, ці не патоне вельмі кволы яшчэ голас беларускіх "зялёных" у патоку абцякальных прамоваў — хто каго будзе слухаць? — і ці хопіць аргументаў, прыкладаў, канкрэтыкі, каб дыялог быў прадметным, зострым і наступальным. Замовіць удзел у слуханнях могуць і нашы чытачы. Паведамляем нумар тэлефона ў Мінску: 263-85-41 (пытацца Вольгу Нікіціну). Газета мае просьбу да чытачоў узяць удзел і ў папярэдняй, завочнай гаворцы. Прапануем дасылаць прапановы, развагі, сігналы-SOS, фотасведчанні і іншае, што датычыць замоўленай праблематыкі.




# Чытачы газеты цікавяцца:



- **колькі каштуюць "турыстычныя" паляванні?**
- **як стаць спецыялістам альтэрнатыўнай энергетыкі?**
- **людзей больш і больш... А дрэў?**

*Шаноўныя спадары! Калі можаце, адкажыце, як мне стаць спецыялістам у галіне так званай "малой" энергетыкі, якую цяпер яшчэ называюць альтэрнатыўнай або ўзнаўляльнай? Ці будзе яна развівацца ў Беларусі, каб сёння думаць пра гэта і рыхтаваць здатных прафесіяналаў? Рэч у тым, што я вельмі люблю прыроду і хачу дапамагчы захаванню яе багацця – будаваць сонца- і ветраўстаноўкі, вадзяныя млыны, і ўвогуле сябраваць з прыродай, а не абдзіраць яе.*

***Сяргей Самойленка,***
навучэнец.
Баранавічы

Шаноўны Сяргей! Тваё пытанне вельмі парадавала нас. І хоць гэта яшчэ не канчатковы твой выбар, аднак заяўка сур'ёзная.

З розных крыніц нам удалося высветліць, што традыцыйнай кадравай кузняй сённяшняй энергетыкі застаецца Беларуская політэхнічная акадэмія, дзе ёсць энергетычны факультэт (спецыяльнасці: электрычныя станцыі, электраэнергетычныя сеткі і сістэмы; цеплавыя электрастанцыі; электразабеспячэнне прамысловых прадпрыемстваў і сельскай гаспадаркі; прамысловая цеплаэнергетыка). Спецыялістаў галіны рыхтуе таксама Мінскі энергатэхнікум.

Летась па ініцыятыве Дзяржкамітэта па энергазберажэнні і энерганагляду ў Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце адкрылася новая спецыяльнасць – "Энергаэфектыўныя тэхналогіі і энергетычны менеджмент", дзе сярод іншых навук ёсць такія як "Прамысловая экалогія", "Энергаэфектыўныя тэхналогіі на аснове нетрадыцыйных энергакрыніц", "Прыродныя рэсурсы і іх выкарыстанне", "Гісторыя і культура Беларусі". Пакідаем тэлефон кафедры энергазберажэння, гідраўлікі і цеплатэхнікі: 227-87-30.

Сёння існуе досыць багатая сетка міжнародных няўрадавых арганізацый, якія спрыяюць развіццю й пашырэнню альтэрнатыўных энергакрыніц і надаюць шмат увагі адукацыйна-асветным праграмам у гэтым надзвычай перспектыўным кірунку. Магчымасць кантактаў неабмежаваная.

Пытанне, ці будзе гэты напрамак развівацца ў Беларусі, патрабуе больш грунтоўнага адказу. Абяцаем вярнуцца да тэмы ў бліжэйшых нумарах.

*Адна з удалых рубрык газеты – "Дзень зямлі". Пасадка дрэўцаў – гэта лепшае, што можа **кожны** зрабіць для планеты. У звязку з гэтым і маё пытанне. Статыстыка сведчыць, што рост насельніцтва Зямлі працягваецца, — а ці становіцца больш дрэў, зялёнага садзіва?*

***Людміла Жучок,***
г.Барысаў

На жаль, не. Калі браць лясы, іх стан у Еўропе працягвае пагаршацца. Пяць гадоў таму ў дакладзе Еўрапейскай камісіі і ААН была дадзена трывожная статыстыка: 19 працэнтаў з 100 тысяч дрэў, за якімі сачылі ўвесь год у 23 краінах Еўропы, страцілі значную частку лістоты й ігліцы. Гэта, інакш кажучы, сведчыла пра пагібель кожнага пятага дрэва. Што да Беларусі, дадзеная статыстыка цалкам падыходзіць, асабліва, калі мець на ўвазе ўраганы 1997 і 1998 гадоў, пажары ды павальнае высыханне ельнікаў. Ваша рацыя, Людміла: трэба ўвесну ***кожнаму*** ўзяць рыдлёўку і пасадзіць хоць бы адно дрэва.

*У двух дыялогах – з прафесарам А.Нікольскім (1,1998) і спецыялістам Мінпрыроды З.Мураўёвым (5,1998) – вы закранáлі валютныя паляванні. Калі няцяжка, дайце хоць уяўленне чытачам газеты, пра якія прыбыткі валютных паляўнічых тураў ідзе гаворка.*

***Аляксандр Бекіш,***
ст. Гарадзея,
Нясвіжскі раён

Пытанне якраз цяжкае. Спадзяёмся, ў бліжэйшы час начальнік упраўлення запаведных тэрыторый, лясной і сельскай гаспадаркі Кіраўніцтва справамі адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Іванавіч Лучкоў дасць прэс-канферэнцыю і пра ўсё раскажа падрабязна. У рэдакцыі пакуль ёсць дакладныя звесткі, што асабліва ахоўныя тэрыторыі Беларусі (а гэта запаведнік і нацыянальныя паркі) зрабіліся ганебным прыстанкам такіх паляванняў (іх, дарэчы, называюць тут турыстычнымі). У якасці прыкладу – колькі лічбаў з "Разліку па аплаце турыстычнага палявання фірмай "Ювентас віадукс" з 14 па 19 красавіка 1996 года", падпісанага гендырэктарам і галоўбухам Прыпяцкага запаведніка (сёння – Нацыянальны парк "Прыпяцкі"). У прыватнасці, аплата за трафеі склала: дзікая качка 254 шт. х 7ДМ (нямецкія маркі – рэд.) = 1778 ДМ; дзікая гусь 6 шт.х 25 ДМ=150 ДМ; іншая крылатая дзічына 30 шт.х3 ДМ= 90 ДМ. З пражываннем і правозам зброі 10-ці "турыстаў" гэты тур склаў суму 11458 нямецкіх марак. Інфармацыя з неафіцыйнай, але праўдзівай крыніцы.

*Кожны чалавек мае права на ўласнае меркаванне. Газета "Белавежская пушча" ўсяляк заахвочвае гэтае права, перш-наперш права грамадзянаў на адстойванне прыродна-культурнага і навакольнага асяроддзя, на выказванне пачуццяў да роднай прыроды, сваёй Бацькаўшчыны...*

# Адгарні назад...

## Газета "Белавежская пушча" ў 1998 годзе: рубрыкі, публікацыі, сціслы змест

**№1(10)** *Рубрыкі: Лад, Каляндар, Права VETO, Маю гонар!, Альбом, Кола, Засцярога, Ніша, Белая вежа, Нашыя словы!*
*Леташні снег.* Слова рэдактара.
*Багавейлівасць перад жыццём.* Эсэ Альберта Швейцара.
Гутарка з прафесарам-эколагам Аляксандрам Нікольскім пра этыку багавейлівасці перад жыццём.
*Любоў да прыроды.* Рэзалюцыя міжнароднай школы-семінара.
*Птахі вяртаюцца з раю.* З нататніка фальклярыста.
*Галандскія "зялёныя" судзяцца.* Досвед, варты пераймання.
*Дзе той "крык, што жыве Беларусь"?* Ліст міністру прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя М. Русаму.
*Фаталірыка Уладзіміра Блінова.* Дзесяць фатаграфій.
*Пакінем запалкі дома!* Традыцыя вясновых падпальванняў нясе трывожную ноту чалавечай грахоўнасці ў прыродзе.
*Афорт з птушкай на рэштках зімы.* Эсэ Нільса Руда (Нарвегія) пра варону.
*Алень з залатым крыжам.* Гродзенскаму гербу з выявай Аленя Святога Губерта споўнілася 500 гадоў.

**№2(11)** *Рубрыкі: Анталогія, Спадчына, Лад, Апакаліпсіс, Занатоўкі, Кветкі раю, Набат, Кола, Ніша, Белая вежа, Нашыя словы!*
*Мы – дзедзічы!* Слова рэдактара.
*Прытулак чар і пекнаты.* Беларуская і замежная лірыка.
*Стаць "аўтарам" прыроднага помніка не менш ганарова, чым напісаць паэму або намаляваць шэдэўр.* Як надаць аб'екту прыроднай спадчыны ахоўны статус? Інтэрв'ю.
*Сацыяльныя карані экалагічных катастрофаў.* Пра эканамічны рост як адну з прычынаў антыэкалагічных наступстваў.
*Паланез Агінскага. Канец XX стагоддзя.* Фрагменты сцэнарыя дакументальнага фільма.
*Жаўранак тваёй душы.* Убачанае і перажытае побач з прыродай.
*У воблаку бэзавых мрояў.* Эсэ пра бэз – кветку вясны і ўспамінаў.
*Лесанарыхтоўчыя ды лесапаляўнічыя тэндэнцыі нахабна і цынічна завалодваюць дзейнасцю на асабліва ахоўных лясных тэрыторыях Беларусі.* Сітуацыя ў Нацыянальным парку "Прыпяцкі".
*Вяшчальны хор, вясновы звон.* Вядомае і малавядомае пра жаб.
*Зніч красы і кахання.* Імёны з беларускай міфалогіі — Ляля і Ярыла.

**№3(12)** *Рубрыкі: Анталогія, Патрыётыка, Спадчына, Ніша, Па-над межамі, Кветкі раю, Мартыралог, Набат, Кола, Кліч Касандры, Лад, Белая вежа, Каляндар.*
*Куды вядуць зямныя дарогі.* Слова рэдактара.
*Кветніца з ружаў лета.* Беларуская і замежная лірыка.
*"О, любоў мая, Беларусь!".* Фрагменты спадчыны *Уладзіміра Караткевіча.*
*Незахаваная Тураўшчына.* Погляд сталага жыхара.
*Дажджавы земляны чарвяк:* чым больш у глебе, тым яна лепшая.
*Лепш не ведаць танных красовак і працаваць на заводзе, які не труціць вако-ліцы.* Што паказалі вынікі аднаго сацыялагічнага апытання?
*Белыя-белыя зоркі ў затоках.* Эсэ пра белую лілею.
*Разбіты азёрны кухаль.* З гісторыі возера, якое знікла з аблічча зямлі.
*Калгасныя лясы маўкліва паміраюць...* Сведчанні спецыяліста-эколага Тадэвуша Шастака.
*Чалавецтву не пагражае "Чырвоная кніга", але выжывуць мацнейшыя.* Інтэрв'ю з антраполагам, доктарам біялагічных навук акадэмікам Аляксеем Мікулічам.
*Адыходы таксама ёсць жаданыя і нежаданыя. Найлепш тыя, якія добра гніюць.* Кампаставанне адыходаў ёсць адным з простых спосабаў падтрымаць чысціню асяроддзя і дапамагчы навакольнай прыродзе.
*Ноч малая ды Купальная!* Фотарэпартаж пра народнае свята.

**№4(13)** *Рубрыкі: Анталогія, Каляндар, Па-над межамі, Ніша, Занатоўкі, Лад, Кліч Касандры, Кола, Ліцэй, Лужок, Набат, Белая вежа, Альбом.*
*Праўдзівая спадчына.* Слова рэдактара.
*Калі апаў першы ліст на зямлю.* Беларуская і замежная лірыка.
*Час пакланення і ўшанавання.* Святым крыжам беларусы маліліся і ў царкве, і ў храме прыроды.
*Адлётныя згукі нябёсаў.* Фенамен птушыных вандроўных міграцый дагэтуль хавае шмат таямніц.
*Мільён плужкоў для сядзібнай дзялянкі.* Дажджавы чарвяк – "санітар зямлі". Працяг тэмы.
*На мяжы, паміж летам і восенню.* Лірычныя занатоўкі Васіля Феранца.
*Перад красой пейзажа.* Англійскі філосаф і культуролаг Джон Роскін пра значнасць ахову ландшафтаў.
*Генетычная трываласць нацыі залежыць ад непарушнасці прыроды і багацця яе краявідаў.* Працяг інтэрв'ю з антраполагам, доктарам біялагічных навук акадэмікам Аляксеем Мікулічам.
*Ва ўмавах, што нас акаляюць, мала перайсці на экалагічна чыстыя прадукты – трэба спыніць прэс на прыроду.* Ліст студэнта Гродзенскага універсітэта Яраслава Пятроўскага і каментар з рэдакцыі.
*Дом для нашчадкаў, альбо Сем філасофій узаемадачыненняў чалавека і прыроды.* Трактат педагога-эколага Яўгена Церахава.
*Алесіна сонейка.* Дзіцячая старонка.
*Нацыянальны парк "Браслаўскія азёры" стаў месцам гвалтоўных землярыйных работ.* Інфармацыя- SOS.
*Белавежскі паляўнічы палац.* Трагічны лёс цудоўнага твора архітэктуры.

**№5(14)** *Рубрыкі: Анталогія, Тут, Лад, Кліч Касан-дры, Каляндар, Альбом, Па-над межамі, Кола, Белая вежа, Спадчына.*
*Беларусь-адыёзус, ці Беларусь – краіна зялёных каштоўнасцяў?* Слова рэдактара.
*Стрэсен апошні арэх, кветкі завянулі ўсе.* Лірыка беларускіх і замежных аўтараў.
*Дзяржаўная дача ў Віскулях.* Фотарэпартаж.
*Беларускі турыстычны прадукт яшчэ не знойдзены, але хутчэй за ўсё ён мае выгляды нашых зялёных ваколіцаў.* Паводле тэзісаў дакладаў для міжнароднай канферэнцыі "Выкарыстанне прыродных тэрыторый у рэкрэацыйных і турыстычных мэтах: экалагічныя аспекты."
*Устаяць перад сілаю ўладнага прагматызму.* Інтэрв'ю з вядучым спецыялістам Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Здзіславам Мураўёвым.
*Адпачынак на ўлонні прыроды.* Развагі і перасцярогі вядомага амерыканскага эколага і пісьменніка Олда Леапольда.
*Краявід.* Дзіцячая старонка.
*У Піліпаўку.* Паводле ўспамінаў сучаснікаў.
*Што кажух – то не вата...* Фотазамалёўка пра адвечнае.
*Таемныя мясціны Вялікабрытаніі.* Нататкі з запаведнікаў, што з'яўляюцца ўладаннямі Каралеўскага таварыства аховы птушак.
*Бруkаванка. Музей пад адкрытым небам?* Мроя-праект газеты "Белавежская пушча" на трывалым грунце

SUMMARY

***The newspaper answers the following question: how to become a specialist in the field of alternative energy, how many trees are growing there on the Earth, and why do National Parks deal with arrangement of hunting tours.***

# Будаваць АЭС на Беларусі – значыць паўтараць чарнобыльскі шлях

*Перспектыва развіцця небяспечнай атамнай энергетыкі ў Беларусі з аддаленай і нібыта міфічнай, робіцца калі яшчэ не вельмі рэальнай, дык шмат выразнейшаю: на думку экспертаў, рашэнне аб будаўніцтве АЭС у сябе "дома", прынята ўжо "наверсе" на карысць так званай ядравай ідэі. Такая "перспектыва" яшчэ больш псуе аблічча нашай краіны як дзяржавы, лічыць большасць дасведчаных, маючы на ўвазе стаўленне экалагічна адукаваных еўрапейцаў і нашую дрымучую "непрасунутасць" (альбо "прасунутасць", але ў бок, процілеглы ад Еўропы і біясферных каштоўнасцяў).*

*Тым часам ўрадавая камісія па АЭС абяцае зрабіць канчатковыя высновы ўжо на пачатку 1999 года. Пасля гэтага, мяркую, прэзідэнт і ўрад прымуць рашэнне. Зрэшты, прадказальнасць поглядаў дзяржаўнай канцылярыі на гэты конт цалкам відавочная і мае сваю гісторыю, засведчаную інфармацыйным зялёным агенцтвам "Неруш-прэс".*

*Хада падзей бярэ пачатак у 1993 годзе; тады камісія толькі распачынала дзейнасць, не маючы пры гэтым аніякай ахвоты адкрываць карт-бланш. Рэдакцыі падаецца, што на фінішы варта нагадаць і пэўныя стартавыя пазіцыі, выкладзеныя ў артыкуле, які быў надрукаваны ў газеце "Свабода" (чэрвень, 1994). "Гістарычны аспект" нашай публікацыі надзвычай яскрава адлюстроўвае* ***права грамадзян на аб`ектыўную і праўдзівую інфармацыю і бяспеку свайго пражывання.***

## Якое надвор'е на Беларусі

Што атамную перспектыву, так бы мовіць, "дзеля дабрабыту Беларусі" прапіхваюць у сродкі масавай інфармацыі досыць актыўна і даўно, вядома не толькі мне. Той, хто за экалагічную тэму, як кажуць, чапляецца вокам, лёгка прыгадае інтэрв`ю, каментарыі, артыкулы з вельмі ўстойлівым камертонавым гучаннем, у якіх няцяжка распазнаць, хто гэтую немудрагелістую музыку заказвае і што за ёю ўвогуле стаіць.Стаіць ідэя развіцця атамнай энергетыкі на Беларусі. Ведаючы, што ад гэткае перспектывы ўжо дух не займае нават у самага спешчанага прагрэсам абываценя, аўтары, з аднаго боку, спрабуюць знайсці нялюдныя ціхія сцежкі, якія зазвычай шукаюць нашыя нядобразычліўцы, каб правезці кантрабанду, а з другога -- абнародваюць ідэю такім чынам, што кантрабандай яна нібыта і не пахне.

Яно і зразумела, бо надвор'е на Беларусі чарнобыльскае.

Выданні, якія пасняшаліся шырока рэпрэзентаваць апетыты распрацоўнікаў атамнай канцэпцыі, здаецца, не памкнуліся раскусіць арэшак, падалі максімум аргументаў "за" пры стрымана фармальным мінімуме "супраць". Нотка сумневу калі й пракідвалася, дык больш мімаходзь.

## За здароўе ці за спачын?

Мінулым летам, калі *часовая ўрадавая камісія* (буду дакладны ў яе назове) *па арганізацыіі работаў, звязаных з распрацоўкай праекту Дзяржаўнае праграмы развіцця атамнай энергетыкі Беларусі*, прыступіла да выканання абавязкаў, я стэлефанаваўся з яе старшынёю доктарам навук Алегам Мартыненкам. Маё жаданне прысутнічаць на адным з першых паседжанняў, натуральна, не было задаволенае. Сп. Мартыненка рашуча адвёў і прапанову даць інтэрв'ю, спаслаўшыся на тое, што пакуль па гэтым пытанні ў камісіі не вызначыцца цвёрдая платформа, у якой не будзе сумнявацца ён сам, сустрэчы з журналістамі выключаюцца. Такім чынам, я меў падставу зрабіць папярэднюю выснову, што маю справу з тэмаю, якую выпускаць на бальшакі галоснасці для пэўных колаў не пажадана. У мяне не ўзнікла рытарычнага пытання, чаму.

Аднак, сп. Мартыненка пакінуў надзею: напрыканцы года ён будзе гатовы сустрэцца з журналістамі. Я чакаў паўгода. Карцела спытацца: "Дык за здароўе ці за спачын?.."

## Хто вас сюды запрашаў?

У дзень апошняга паседжання камісіі, 30 снежня, я быў самотным прадстаўніком ад сродкаў масавай інфармацыі, няйнакш, патэнцыйным разбуральнікам "сакрэтнай" канцэпцыі. Мая прысутнасць была адразу заўважаная, падалася спрэчнаю і выклікала нервовасць у асобных сяброў камісіі. Я выразна адчуў, што трапіў на паласу з аднабаковым рухам, бо мяне без аніякіх падставаў уважылі за чалавека, які абавязкова рухаецца ў бок праціелеглы.

Зыходзячы, відаць, з тэзы, што ўсялякае назіранне церпіць ад асабістых якасцяў назіральніка, мне прапанавалі варыянты: альбо я пакіну залу, альбо мая інфармацыя мусіць зведаць "мясцовую" цэнзуру. Я пакінуў залу, і пасля канфедэнцыйнае размовы пры зачыненых дзвярах мяне запрасілі, каб давесці інфармацыю аб прынятым рашэнні: праект перадаць на разгляд у Саўмін. Столькі і было той інфармацыі.

Праўда, перад тым як выправіць няпрошанага госця пагуляць, сп. Мартыненка, звяртаючыся да мяне і – праз мяне – да маіх калег-журналістаў, папрасіў "патрываць яшчэ з месяц", не распальваць дыскусіяў, якія, на яго погляд, могуць "прынесці нашаму народу толькі шкоду". Просьба падалася мне спецыфічнаю: патрываць, пакуль урад прыме рашэнне? А фраза міністра энергетыкі Валянціна Герасімава *"хто вас сюды запрасіў?"* нагадала, што нашаму брату-журналісту патрапіць на званы абед да кітайскага пасла куды прасцей, чымся ва ўстанову, якая нібыта працуе дзеля народу.



*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

Праз некалькі дзён агенцтва "Неруш-прэс" распаўсюдзіла інфармацыю пра тое, што камісія на чале з А.Мартыненкам выказалася **за магчымасць і мэтазгоднасць** развіцця атамнай энергетыкі на Беларусі як найбольш таннай у параўнанні з іншымі крыніцамі энергіі.

Цяпер слова за ўрадам, хоць у яго-най пазіцыі можна не сумнявацца. Аднак застаюцца адкрытымі шматлікія пытанні перспектыўнага кшталту: фінансаванне будаўніцтва АЭС (дзе ўзяць сумы з мноствам нулёў?); падбор пляцоўкі (што надзвычай праблематычна ва ўмовах Беларусі); гарантыі экалагічнае бяспекі і надзейнасці АЭС (шэраг тэхнагенных фактараў і разам з тым так званы чалавечы); нарэшце, ядравая энергетыка – гэта не толькі атамныя станцыі, але і цэлы комплекс прадпрыемстваў, звязаных з вырабам ядравага паліва, ягонаю перавозкаю, захаваннем, перапрацоўкаю апрамененых матэрыялаў, утылізацыяй адных і скарыстаннем іншых радыёактыўных адыходаў ( да гэтага цыклу дадайце яшчэ праблему дэмантажу АЭС пад "зялёны лужок) і гэтак далей.

## Гамлетаўскае пытанне

Не буду таіцца, выкажу тое "адно неасцярожнае слова", якога палохаюцца і ад якога засцерагаюць журналістаў гарачыя прыхільнікі атамнай перпектывы. Я супраць таго, каб на Беларусі будавалі АЭС. Больш за тое, абвясціў бы *мараторый на іх будаўніцтва...* Але найперш я супраць спробаў вырашаць гэтае пытанне келейна-карпаратыўна, у цішы міністэрскіх кабінетаў і ўбаку ад грамадскае думкі.

Людзям трэба ведаць не толькі так званую "праўду" пра вяртанне ў пячору, у нібыта суцэльны змрок, да нібыта дзедаўскай лучыны і гэтак далей. Але і поўную праўду пра тое, што ёсць атамнай энергетыкай і што нясе з сабою размяшчэнне атамных канглемерацыяў. Зрэшты, ці не той гэта рэдкасна жахлівы выпадак, калі аргументы – побач з намі, у вобразе нябачнага монстра, які апустошыў поўдзень Беларусі, пазбавіў радзімы мільёны людзей? Той выпадак, той...

Калі палітычнае рашэнне будзе прынятае на карысць атамнай перспектывы – можна лічыць, мы на пачатку чарговага – ядрава-энергетычнага – вітка прагрэсу, а значыць, новага вітка экалагічнага ўрону, які непазбежна абрынецца на нашых дзяцей і ўнукаў мностваам праблемаў, як прадказальных, так і непрадказальных сёння. "Быць ці не быць" у дачыненні да АЭС напраўду гучыць па-гамлетаўску, бо пры такой пастаноўцы пытання кладзецца на шалі як бы сама ісціна, і ўсё залежыць ад нас, пераважыць яна або не; па сутнасці – ці пераважыць істотнае, разумнае, каштоўнае. І не трэба казаць пра адсутнасць крытэрыяў. Яны ўжо ўнутры нас.

## Альтэрнатыва: толькі не бяздзейнасць!

Мне могуць задаць пытанне: калі ты такі "зялёны" і дбаеш пра чысціню Беларусі, у чым тады, на твой розум, альтэрнатыва АЭС? Цалкам падзяляю і пафас пытання, і пагляд-адказ, выказаны раней за мяне: альтэрнатываю не павінна заставацца нашая бяздзейнасць.

"Заслуга" праекту ўжо ў тым, што ён ёсць. Заслугаю грамадства цяпер няхай станецца факт ягонага ўсебаковага крытычнага асэнсавання і поўнага адхілення на карысць мнос-тва іншых варыянтаў, якія б стваралі альтэрнатыву.

Ледзь не здрадаю выглядае рашэнне Акадэміі навук. Відаць, з інтарэсаў меркантыльна-выжывальных (ці працсей, інтарэсаў пракорму) гэтая шаноўная ўстанова падтрымала праект праграмы, хоць, ведаю, сярод аўтарытэтаў навукі ёсць нямала даўніх апазіцыянераў як да АЭС, так і да асобных падыходаў, выкладзеных у праекце.

Прапагандысцкі махавік памалупаціху будзе раскручвацца паводле запісу ў праекце дзяржпраграмы: *фармаваць грамадскую думку на карысць развіцця атамнай энергетыкі.* Проста і даступна.

Як тут, у рэшце рэшт, не ўзяць да галавы, што дзяржаўны рэжым на Беларусі застаецца антыэкалагічным, што ядравую перспектыву нам дыктуюць нязломныя ў сваіх апетытах ведамствы, энерга- і рэсурсапаглынальныя прамысловыя канглемерацыі, для якіх даўно не чалавек – мера ўсіх рэчаў, а нешта зусім-зусім іншае, часам увогуле процілеглае паняццю чалавечага шчасця.

## Сіндром "мясцовага эгаізму". Як панацэя?

Зусім малаверагодна, што ідэя ядравай энергетычнай перспектывы на Беларусі пройдзе. Чарнобыльскі сіндром, пра які даволі часта гавораць, здаецца, найменш уласцівы ўладным структурам, якія прывыклі прымаць рашэнні выключна з пазіцыяў эканамічнай мэтазгоднасці. Але на гэты раз, калі спроба дойдзе да выбару пляцоўкі, сіндром імгненна спрацуе на ўзроўні "мясцовага эгаізму".

Людзі – канкрэтныя жыхары – фізічна адчуюць цень небяспекі і падымуцца гарою. Гэтак жа, як падняліся жыхары Старадарожскага, Баранавіцкага, а нядаўна і Пружанскага раёнаў, калі ў іх "пад вокнамі" мерыліся "пасадзіць" адзін і той жа завод перапрацоўкі прамысловых адыходаў. Вось вам, калі ласка, маленькая мадэль развіцця магчымых падзеяў вакол будаўніцтва АЭС.

Тэарэтычна можна дамагчыся згоды народу, скажам, праз рэферэндум. Практычна згоды гэтае не будзе ў кожным паасобным выпадку.

Відаць, гэта не толькі словы, не толькі эмоцыі: будаваць АЭС – значыць у поўнай меры паўтараць чарнобыльскі шлях. Той шлях, па якім далей ісці небяспечна і нават амаральна. Дык можа, лепш мараторый?

***Валерый Дранчук***
*1994*


SUMMARY

***Will a nuclear power station be built in Belarus? - The Government doesn't answer this question, but it's known already that preparation for construction has been carried out for a long time. Valery Dranchuk is publishing the articles written in 1994 in which he declares that these intents are mistaken. Here also the resolution of Kiev conference "10 lessons of Chernobyl" (1996) is placed.***




# Мемарандум "10 урокаў Чарнобыля"

**(прынялі 120 арганізацый з 30 краін свету)**

...Міжнароднае агенцтва па атамнай энергетыцы **(МАГАТЭ) цынічна прымяншае маштабы трагедыі.** Чарнобыль ёсць не выключэннем, а хутчэй сімптомам хваробы, характэрнай для ўсёй сусветнай ядзернай прамысловасці... Няма эфектыўных гарантый ні супраць уцечкі й распаўсюджання радыеактыўных матэрыялаў, у тым ліку на зброю, ні супраць тэрактаў і вайсковых нападаў... 50 гадоў даследаванняў і мільярды патрачаных долараў не зрабілі магчымым знайсці спосабу **надзейнай ізаляцыі радыеактыўных адходаў** ад навакольнага асяроддзя.

...Цэнтралізаваныя сістэмы электравытворчасці, якія базуюцца на ядзернай энергіі, аказаліся **неэканомнымі, нягібкімі і дарагімі**. Яны з'яўляюцца пажыўнай глебай для стварэння элітарнай групы "экспертаў", якія з гэтага маюць, таму гэтыя сістэмы **цяжка сумясціць з прававым грамадствам**. Яны антыдэмакратычныя, бо выключаюць удзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў, якія датычаць бяспекі. Яны ёсць пагрозай, якая не паддаецца разлікам і за якую ніхто не нясе адказнасці. Гэта пагроза для будучых пакаленняў, і ніводны нацыянальны ўрад не зможа абараніць нашчадкаў, пакуль пагроза застаецца рэальнай.

...З усіх асноўных відаў энергіі ядзерная **самая дарагая**... Яна выжывае толькі там, дзе ўкладваюцца вялікія датацыі і дзе яе засланяюць ад здаровае канкурэнцыі, — мы субсідуем яе значнымі падаткамі, мы плацім за яе нашым здароўем і нашай будучыняй. Яна паглынае сродкі, якія можна было б інвеставаць у больш прымальныя альтэрнатыўныя крыніцы энергіі.

...Крэдыты, якія адпускаюцца міжнароднымі банкамі, замежнымі ўрадавымі агенцтвамі і фінансавымі структурамі, падмацоўваюць **наступ ядзернай індустрыі на Ўсходнюю Еўропу.**

...Доўгатэрміновы **патэнцыял узнаўляльных відаў энергіі**, такіх як ветравая энергія, малая гідраэнергія і энергія біямасы, надзвычай вялікі і эканамічна эфектыўны. Ён мусіць быць рэалізаваны ў рамках Праграмы даследаванняў, укаранення новай тэхналогіі і эканамічных стымулаў, якая паспрыяла б скарачэнню выкідаў, што выклікаюць парніковы эфект. Адзінай перашкодаю на шляху рэалізацыі патэнцыялу ўзнаўляльных (альтэрнатыўных) энергій з'яўляецца адсутнасць палітычнай волі з боку дзяржаў Усходняй Еўропы і вядучых прамысловых краін свету.

...**Ядзернае лобі** мае за сабой магутную нацыянальную і міжнародную сетку банкаў, даследчых інстытутаў, так званых кантрольных органаў і нават урадаў. Ядзерная лобі выступае супраць структурных зменаў, адразаючы гэтым шлях да рацыянальнай энергетычнай палітыкі, бо апошняя азначала б частковую страту яго ўлады й даходаў.

...Патрабаванні прававога грамадства, якія датычаць... энергетычнай палітыкі, выглядаюць наступным парадкам: **свабодны доступ да інфармацыі, галоснасць падчас прыняцця палітычных рашэнняў і іх падсправаздачнасць, удзел шырокай грамадскасці і настойлівасць.**

...Кожны чалавек, кожная суполка, якія выступаюць супраць ядзернай энергетыкі і змагаюцца за экалагічна мэтазгодную эканамічную палітыку, павінны мець магчымасць разлічваць на **салідарнасць і садзеянне міжнароднага антыядзернага руху.**

*Кіеў, красавік 1996*

## "Экацыд ідзе..."

"...А навокал месячныя ландшафты. Ужо з будучыні. Верхні пласт зямлі – на дзесятках гектараў – зняты, замест яго ўсё засыпана даламітавай мукой. Бяжыць, аддаляецца за гарызонт незямное поле. Ужо ў цемры пасярод вёскі напароліся на помнік Леніну. Стаіць, адзін, на мёртвай зямлі... З хаты насупраць выскачыў раптам дзік, за ім другі. У чалавечым жытле пасяліліся звяры. Дык вось ты якая, вечнасць?

У белай квецені сады... Быццам накрыты стол без гасцей... І вясковая вуліца без чалавека. Поле без чалавека. Дарога ў нікуды. Праведы ў нікуды".

*Святлана Алексіевіч.* ***"Чарнобыльская малітва. Хроніка будучыні".***




** вокладка часопіса "Грынпіс" (пачатак 1990 года) застаецца актуальнай, бадай, па сённяшні дзень: здань "сэсэсэраўскага" мінулага не першы год блукае па нашай краіне, а поруч з экалагічным вынішчэннем (чытай надпіс унізе: "Экацыд ідзе") стаіць і духоўны Чарнобыль. Нікуды не падзецца ад праўных асацыяцыяў: дзеці ў процівагазах — хіба ж не нашы беларускія дзеці, у якіх, паводле Максіма Багдановіча, абакралі й душу— "у ёй нават мовы няма"?*



* сняданак.
Фота: Уладзімір Дацкевіч

са старонкі 10

Вяртаючыся з лесу позняй гадзінай, здзіўляешся маленькаму цуду: у кустах заірдзелася, мільгатнула яскарка-кропачка – гэта чароўнае святло далёкай нябеснай зоркі адбілася ў снежным крышталіку на галінцы. Зорачка-самацвет. Лес такімі начамі спачатку палохае і наганяе жуду, але паступова звыкаешся й пачынаеш разумець яго харастcovo, чытаць выразныя сінія цені, ды ўглядацца ў сілуэты дрэў і кустоў. Не перастаеш пры гэтым здзіўляцца: лес, такі знаёмы днём, зусім іншы і непадобны робіцца ўначы.

У Пушчы здараліся розныя зімы. Бывала, стаяў трыдцыйны класічны студзень, калі рыпеў снег і трымаўся мароз. Выпадалі і адносна цёплыя сырыя заходнія зімы, калі валіў мокры снег і хлюпала пад нагамі. Памятаю, калі ўсю навагоднюю ноч цурболіў дождж – цёплае дыханне Захаду нікуды не спішаш.

## Люты

Пасля самай доўгай начы 21 снежня дзень пачаў прырастаць. Заўважаеш, як сонейка з кожным днём падвышае сваю хаду. Пра вясну гаварыць яшчэ рана. Мароз заўзята малюе на шкле ўзоры, якія ў поўдзень, аднак, пачынаюць падтайваць. Можна толькі захапляцца, назіраючы, як вяршыні намаляванага на вакне зімовага лесу ў абедзенны час, глядзіш, аплаўляюцца і ацякаюць. Асабліва незвычайна сачыць у поўдзень за дзеяннямі сонца на паўднёвай палавіне кроны магутнай елкі. Калі паўночны бок у снезе і тут па-зімоваму холадна, дык на паўднёвым-- бахматыя лапы ўжо без снегу.

Безумоўна, люты – яшчэ зіма. Пасля лагоднага сонечнага дня можа на падперці моцны мароз і на некалькі сутак заспяваць снежная кудаса. У гэты час лясы Пушчы церпяць пакуту. Снег цяжкім гнётам кладзецца на дрэвы, маладыя ствалы згінаюцца ў дугу. Асабліва дастаецца грабу і ясеню, іх гукі і ствольныя часткі, асабліва вярхі лёгка абломваюцца. Летам, ідучы па лесе, адольваеш завалы і дзіву даешся, як усё перамяшалася, закруцілася. Тонкія бярозкі, вярбіны, асіны нагнутыя да самай зямлі і ўжо, здаецца, не намагаюцца змяняць паставу. А гэта ўсё цуды зімы-чарадзейкі, яе свавольствы!

Звярам цяжка. Бадай, як ніколі. Зубрам і аленям, казулям і дзікам няпроста здабыць корм, дый паспрабуй разбяжыся, калі чэрава ў снезе. Старэйшыя жыхары прыгадваюць суровыя снежныя зімы 50-х гадоў. Снегу было столькі, што звяры не маглі хадзіць па лесе і стаялі ўздоўж дарог, чакалі корму, што прывязе ім егер. Дзікі схуднелі ўшчэнт, глянеш – сухая вобла. Шмат лясных жыхароў пагінула, гэта быў значны ўпадак, які, на шчасце, больш не паўтараўся.

Ваўчыцы смялеюць, а ваўкі робяцца агрэсіўныя. "Воўчыя вяселлі", кажуць пра гэты час. Адзін ляснік паўночнай часткі Пушчы распавёў мне такую гісторыю. Неяк падвячорак за ім увязалася ваўчыца. Кругом лес, снег глыбокі, а яна за ім следам па лыжні. Бліжэй, бліжэй. Стан у чалавека непрыемны, з сабою ані сякеры, ані ружжа. А ваўчыца смялела ўсё больш. Але... Наперадзе паказалася поле і дом з агеньчыкам у вакне – гэта быў паратунак.

Яшчэ большае маё ўзрушэнне было, калі я пачуў другую гісторыю ад вельмі старога пушчанца. Позна вечарам у санях-развалках ён вяртаўся са Свілачы дахаты. Раптам кабыла захрапла і стала на месцы. Мужчына прыпадняўся, глянуў наперад і замёр – на дарозе сядзела зграя ваўкоў. Павярнуць назад? Наўскоч — і ўцячы?.. Гэта поўная пагібель. Ляснік злез, выйшаў наперад, прачытаў малітву і ўзяўшы каня за аброць павёў па дарозе на самую зграю, і ... ваўкі расступіліся не зачапаіўшы. Толькі далёка адышоўшыся ды аддыхаўшыся ад перапуду, чалавек борзда ўскочыў у сані і птушкай даляцеў да сяла.



* снежнае Каралеўства Белавежская пушча
Фота: Уладзімір Дацкевіч
(в. Камянюкі, Белавежская пушча)

Сёння воўк для Пушчы — звер досыць рэдкі. Лясная ахова спраўна робіць сваё: дзе шмат капытных, там воўк небяспечны й непажаданы. Хоць менавіта ў такіх умовах і давялося сустрэцца з надзіва цікавай формай паводзін драпежнага звера. Сям'я ваўкоў доўгі час жыла ў Пушчы, дзякуючы сваёй, проста такі неваўчынай хітрасці. Звяры ніколі не хадзілі па чыстым снезе, а выбіралі чужыя сляды, якія пакідалі алені або дзікі. Каб збіць чалавека з панталыку і "замесці" свой след, палохалі чараду, — жывёліны ў паніцы затоптвалі іхнія сляды, не пакідаючы нават намёку на воўчую прысутнасць...

І ўсё ж люты – прадвесце вясны. Пасля дзесятага дня ў поўдзень можна пачуць у лесе звонкі шлюбны пошчак дзятла. Ён выбірае самы сухі і высокі камель і гучна адстуквае любоўную тэлеграму. За ім пачынаюць насвістваць вясновыя шлюбныя песні сініцы ды дзятлікі. А дзесьці ў трэцяй дэкадзе месяца з'яўляюцца і першыя скінутыя рогі аленя – сакавік, лічы, на парозе.



* рака Лясная. Студзень.
Фота: Уладзімір Дацкевіч

## ЛЕС -- ЛЁС

# Зялёнае золата Бацькаўшчыны

**Што можа ўрад, каб разам з прыватным сектарам эканомікі, недзяржаўнымі ды іншымі групамі як мага паспрыяць нацыянальнаму лясному фонду, старым лясам***



**П**авялічыць пасадкі новых лясоў, зніжаючы нагрузку на асноўныя лясныя фонды і старыя лясы. Засяваць дзялянкі між дрэваў карыснымі культурамі для павышэння каштоўнасці лесу

**В**ыводзіць пароды дрэваў, больш прадуктыўныя ды больш устойлівыя да экалагічных нагрузак

**З**мяншаць колькасць забруджвальных рэчываў, якія ўплываюць на стан лесу, у тым ліку трансгранічныя выкіды

**В**ыкарыстоўваць экалагічна правільную, больш эфектыўную і менш "брудную" методыку лесапавала, пашыраць вытворчасць дрэваапрацоўкі ў раёне лясных абшараў

**С**караціць да мінімуму драўнінныя адходы, садзейнічаць развіццю малых прадпрыемстваў, якія скарыстоўваюць лясную прадукцыю

**П**авялічыць дабавачную цану за кошт працэса другаснай апрацоўкі ляснай прадукцыі з мэтай павелічэння занятасці і даходаў ад кожнага нарыхтаванага дрэва

**Р**азвіваць гарадскую лесагаспадарку для азелянення ўсіх жылых раёнаў

**П**ашыраць выкарыстанне такіх лесапрадуктаў, як лекавыя расліны, фарбавальнікі, фураж, стымуляваць працу мясцовых майстроў-умельцаў

**З**аахвочваць тыя віды скарыстання лесу, якія прычыняюць мінімальны ўрон, напрыклад, экалагічны турызм

**С**адзейнічаць рацыянальнаму кіраванню прылеснымі тэрыторыямі, з тым, каб зніжаўся ўрон і ўціск

**С**тварыць і пашыраць сістэму ахоўных тэрыторыяў з мэтаю захавання часткі лясоў

* паводле рэкамендацыяў, выпрацаваных Канферэнцыяй ААН па навакольным асяроддзі і развіцці.
*1992, Рыо-дэ-Жанейра*

Альтэрнатыва

## Сонца над Пушчай свеціць і ўначы

Хто яшчэ не паверыў у верагоднасць рэальнай эфектыўнасці скарыстання сонечнай энергіі ў якасці альтэрнатыўнай крыніцы, можа паехаць пераканацца ў Белавежскую пушчу. На даху Музея прыроды нацыянальнага парка ўстаноўлены 20 батарэяў сілкавання, кожная на сорак ват. *"Сонечнай моцы хапае, каб*



*ліхтары ў двары музея і гасцініцы ззялі ўсю ноч,"* – кажа галоўны інжынер мінскай вытворчай фірмы "Электрэт" Сяргей Яраш. Ён жа са стрыманым гонарам дадае, што такія крыніцы ўсталяваны таксама й на двух лясных хутарах паблізу вёскі Камянюкі. Аднак геаграфія выкарыстання нетрадыцыйнай энергетычнай крыніцы гэтым не абмяжоўваецца. З 1993 года фірма актыўна працуе на чарнобыльскую зону, дзе энергію ззяючай планеты штодзень прымаюць навуковыя станцы і пасты. *Уласная інфармацыя*

* *фасад будынка Музея прыроды і гасцініцы ў Камянюках (Белавежская пушча). На ніжнім застрэшку выразна відаць размешчаныя элементы сонечнага сілкавання.*

*Фота: Віктар Бахараў*

Канвенцыі

## Беларусь прызнала, што яе "дзяржаўныя органы валодаюць экалагічнай інфармацыяй у інтарэсах грамадскасці"

Орхуская канвенцыя *аб доступе да інфармацыі і забеспячэнні ўдзелу грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў, у тым ліку правасуддзя, па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя* (1998), нарэшце, займела юрыдычную сілу ў Беларусі. Нагадаем, што ў дацкім горадзе Орхусе, дзе ў чэрвені 1998 года прайшла чацвёртая канферэнцыя міністраў "Навакольнае асяроддзе для Еўропы", Беларусь не падпісала гэтую Канвенцыю, не называючы важкіх прачынаў адтэрміноўкі. Аднак пасля 21 снежня (апошні тэрмін падпісання) кропкі над ***і*** былі пастаўленыя: Канвенцыя падпісана, і ўсе яе пункты маюць поўнае дачыненне да нашай краіны.

Наколькі Канвенцыя актуальная, можа пасведчыць артыкул 2 *"Вызначэнні"*: *"Экалагічная інфармацыя"* азначае любую інфармацыю ў пісьмовай, аўдыавізуальнай, электроннай або любой іншай матэрыяльнай форме пра:

i) стан элементаў навакольнага асяроддзя (НА), такіх, як паветра і атмасфера, вада, глеба, зямля, ландшафт і прыродныя аб'екты, біялагічная разнастайнасць і яе кампаненты, разам з тым генетычна змененыя арганізмы, і ўзаемадзеянне паміж гэтымі элементамі;

ii) фактары, такія, як рэчывы, энергія, шум і выпраменьванні і дзейнасць або захады, у тым ліку адміністрацыйныя захады, прыродаахоўныя пагадненні, палітыка, заканадаўства, планы і праграмы, якія ўплываюць на элементы НА, што названыя ў падпункце і), і аналіз выдаткаў і вынікаў, іншы эканамічны аналіз і дапушчэнні, скарыстаныя для прыняцця рашэнняў у галіне аховы НА;

iii) стан здароўя і бяспекі людзей, умовы жыцця людзей, стан аб'ектаў культуры, будынкаў і гмахаў у той ступені, у якой на іх уздзейнічае стан элементаў НА або, праз гэтыя элементы, фактары, дзейнасць або захады, што названыя ў падпункце ii)".

У артыкуле 5 *"Збор і распаўсюджанне экалагічнай інфармацыі"* гаворыцца, што кожны бок (адзін з іх Беларусь – **рэд.**) забяспечвае, каб "у выпадку любой магчымай пагрозы здароўю чалавека або НА, якая ўзнікае ў выніку дзейнасці чалавека альбо з прычыны прыроднага кшталту, **уся інфармацыя,** якая магла б дазволіць грамадскасці прымаць захады дзеля ўнікнення або змякчэння вынікаў шкоды, што ўзнікае ў сувязі з такой пагрозай і пра якую ведае дзяржаўны орган, **распаўсюджвалася адразу і без затрымкі** сярод членаў грамадства, якіх пагроза патэнцыяльна датычыць".

І далей: "Кожны Бок распрацоўвае механізмы з мэтай забеспячэння знаёмства грамадскасці з дастатковай інфармацыяй аб прадуктах такім чынам, каб даваць магчымасць спажыўцам рабіць абгрунтаваны выбар з улікам інтарэсаў аховы навакольнага асяроддзя."

Як бачна, гаворка ідзе пра сталую і грунтоўную сістэму інфармавання, дзе, як кажуць, і конь не валяўся, калі гаварыць пра сённяшні стан экалагічнай галоснасці ў нашай краіне. Зрушваць гэты "ляжачы камень", аднак, трэба ўжо сёння, і неадкладна, бо Канвенцыя дзейнічае, а мы, як вядома, жывём у антыэкалагічнай дзяржаве". *Уласная інфармацыя.*

Фауна

## Швецыя – Беларусь: параўнаем?

Швецыя абвясціла аб намерах значна палепшыць стан папуляцыяў "сваіх" вялікіх драпежнікаў — для поўнага дабрабыту! Колькасць мядзведзяў, напрыклад, мае павялічыцца ўдвая і складзе 2000-2500 (!) асобнікаў. Вырасце і папуляцыя рысі: з 1000-1500 да 3000 звяроў. Гэта блізу той колькасці, што была адзначана ў 19 стагоддзі.

Тым часам у Беларусі мядзведзі і рысі больш ды больш схіляюцца да свайго поўнага ўпадку. Паводле звестак, пададзеных спецыялістамі Нацыянальнай акадэміі навук, сёння ў нашых лясах жыве каля 300 асобінаў рысі й крыху больш за 100 мядзведзяў. Праз 10-20 гадоў рысь увогуле можа знікнуць – такі прагноз робяць беларускія вучоныя і тлумачаць прычыну вельмі нізкай шчыльнасцю сялібавання звера-



*Фота: Віктар Бахараў (г. Гродна)*

самотніка: пары рысі не могуць сустрэцца, каб даць прыплод. Выйсце – стварэнне адмысловых рэзерватаў.

І рысі, і мядзведзі, зазначаюць знаўцы беларускай фауны, пачуваюць сябе дужа файна там, дзе рэдка бывае чалавек: у старых перастойных лясах, дзе шмат буралому, блізка вада, дзе абшары балотаў ды ягаднікі. Аднак мясцінаў, якія б не закранула меліярацыя ці лесанарыхтоўкі, у нас засталося няшмат. *Крыніца: экалагічныя навіны Нідэрландаў, Інтэрфакс.*

Спадчына

## Зялёная кніга Беларусі

Услед за Чырвонай кнігай Беларусі, якая мае ўжо два выданні, распачата падрыхтоўка першага выпуску Зялёнай кнігі, куды ў якасці рэдкіх і што падпалі пад пагрозу знікнення будуць занесены лясныя супольнасці. Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя даручыла гэтую працу Інстытуту эксперыментальнай батанікі Нацыянальнай Акадэміі навук. Нягледзячы на тое, што ход выканання запланаваных работ відавочна замаруджаны па "розных аб'ектыўных прычынах", у Міністэрстве ёсць надзея на завяршэнне праекта ў самым пачатку 2000 года.

Беларусь, тым часам, будзе не першая, хто вырашыў забяспечыць свае лясныя багацці яшчэ адным ахоўным сродкам супраць жорсткага вынішчэння; колькі гадоў таму Зялёную кнігу выпусціла Украіна. Ёсць меркаванне, што выданне з'явілася своечасовым і эфектыўным сродкам. Ці дапушчальна марудзіць нам, беларусам? *Уласная інфармацыя.*



SUMMARY

*The Belaya Vezha ("White Tower") section gives various information on ecological and other topics.*

# КАЛЯНДАР CALENDAR

## На Грамніцы

*Дзедзіч*

### Забытая свечка

За вялікімі хлеўнымі дзвярыма на паліцы, аблытанай старым павуціннем, куды й павук перастаў хадзіць на ловы, стаяла шклянка з пакінутай там адвеку грамнічнай свечкай. Улетку, адведваючы свой родны куток, я ўспомніў пра тайніцу ў хляве, і вырашыў праверыць, ці не прыняў хто грамнічную свечку. Якая ўцеха была запэўніцца, што ўсё засталося на месцы, хоць няма ўжо даўно ні скаціны, ні птушкі, дзеля якіх і прыносілі-ставілі ў хлеў ахоўную грамнічную свечку мае продкі. Я зняў асцярожна з паліцы пачарнелую свечку, абцёр яе ад пылу гадоў і запаліў. Полымя доўга і неахвотна ўбіралася ў сілу. Нарэшце, кволы язычок выпрастаўся, і з гарачай ямкі сплыла ўніз адна-другая васкавая слязіна. У хляве зрабілася неяк нязвыкла ціха, па-свойму велічна і ўрачыста. Я паабяцаў сам сабе, што дачакаўшыся лютаўскага свята Грамніцаў, зраблю (на горшы выпадак, прыдасца й купленая) грамнічную свечку, ды, як калісьці мае продкі, асвячу яе ў царкве і схаваю ў добрым надзейным месцы.

### Грамнічны бацька

Дзень напярэдадні зваўся Грамнічным бацькам – бо заўтра ж Грамніцы. Таму на гэты час былі ўжо гатовыя ці акурат рыхтаваліся свечкі з асенняга воску. Выраблялі іх часам вялікія, да паўметра. Зразумела, калі да гэтага штукавання прыкладваліся рукі, ды пераважна жаночыя, — свечка набывала сваю адметнасць.Кожны, хто браўся за справу, рабіў яе з цёплай душой і як бы далучаўся да божага патаемства. Ведаў, што будуць яе асвячаць малітвай у храме, а пасля ўжо, дома, запальваць падчас навальніцы грымотнай, каб дом не спаліла маланка; роднаму ў рукі даваць, каб адпрэчыць смяротны цень, асвяціць шлях на той свет; ставіць у патаемных куточках сялібы, каб "сілу нячыстую" не пусціць на парог... Вось і атрымлівалася свечка суладна з думкамі-пажаданнямі, думкамі-засцярогамі — сімвал чалавечае веры ў светлае і дарагое.

Грамнічны бацька быў задаволены, калі напярэдадні свята свечкі-грамніцы былі выраблены з добрым густам і чулым сэрцам. А самым вечарам, як добра цямнела, Грамнічны бацька зважаў на неба: калі яно ўсыпана зоркамі — чакай позняй вясны. Такая прыкмета.

### Ахоўнае святло

Позняя ці не, а вясна ўжо рушыць па сонцу. Певень, глядзіш, з-пад страхі прабуе вадзіцу. "На Грамніцы – паўзіміцы", — казалі так людзі. Маўляў, і рукавіцы ўжо больш непатрэбныя. Але ж не гэта, бадай, галоўнае. Галоўнае – агеньчык тваёй свечкі, якую ў гэты дзень запаліш у храме і прынясеш у сваё жытло, у свой дом і ў свой двор. Няхай ахавае ад злога, няхай адступіцца ўсё ліхое перад яе святлом. Няхай прыйдзе вясна.


SUMMARY

***The folk calendar is presented by the festival called Gramnitsy which entered the spiritual life of Byelorussians as the day of consecration of candles in temples with belief in their protective power.***




### Да чытачоў

Шаноўныя сябры!

Рэдакцыя мае надзею, што яшчэ адзін год узаемных стасункаў дае Вам падставу для пэўнага выніку, адпаведнай высновы пра наша выданне, нескарыстаныя магчымасці, станоўчыя набыткі і г.д. Калі Вы здольныя паверыць ў нашу вялікую зацікаўленасць атрымаць ад Вас водгук, адкажыце на пытанні анкеты.

1. Чым завабіла Вас газета? З якіх крыніц даведаліся пра наша выданне (гартаючы падпісны каталог, купілі ў шапіку, пачулі па радыё, убачылі ў знаёмых і г.д.)?
2. Ваша ўражанне ад выпускаў, якія чыталі (калі можна, больш падрабязна).
3. Што не падабаецца ў газеце альбо варта змяніць, палепшыць?
4. Якія тэмы Вы хацелі б нам замовіць (падкажыце таксама адрасы ці людзей, якія добра валодаюць матэрыялам і маглі б быць нашымі аўтарамі)?
5. Пра сябе: якога Вы ўзросту, хто па прафесіі, чым захапляецеся, дзе жывяце (спадзяёмся, Ваш "аўтапартрэт" выйдзе за рамкі пашпартнага).
6. Ваша фота з альбома (пажадана на ўлонні прыроды).

Вы можаце адказаць не на ўсе, а на любое з пытанняў, якое вас зацікавіла. Чакаем лістоў.

ЗАГАДЗЯ ЎДЗЯЧНЫЯ ВАМ.

## КРАЙ COUNTRY

** тыповы малюнак на нашых рэках і рэчках перад тым, як вада схаваецца пад тоўшчаю лёду (здымак справа).* ***Аляксандр Гутоўскі*** *ўбачыў шматстайнасць і багацце нёманскай пластыкі ў адным імгненні.*

** такога "звера" (гл. пад тэкстам) напаткаў фотапаляўнічы* ***Аляксандр Мацюш,*** *блукаючы ў прыпяцкіх лясах. "Зубрадзік" — так назваў ён сваю знаходку.*

** фотаздымак побач можна назваць сапраўдным трафеем. Праўда, здабыў яго арнітолаг* ***Аляксандр Казулін*** *не дзесьці ў глушы, а ў самым цэнтры беларускай сталіцы — блізу цяперашняй гасцініцы "Беларусь" і Палаца спорту. Што да сюжэта і дзеючых асобаў, дык у якасці "крылатага агрэсара" тут звычайная варона, якая падчас нестандартных сітуацый заўсёды на месцы здарэння.*







## НАШЫЯ СЛОВЫ!

### Шчасця, долі і здароўя!

***Беларускія народныя тосты***

Дай жа, Божа, каб нам было гожа, весела жылося, шчасліва вялося: у полі ўродзіста, у гумне накладзіста, у клеці насыпіста, у млыне намеліста, у дзяжы падыдзіста, на стале ўедзіста!

Дай, Божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не давядзі, Божа!

Дай, Божа, разам трое: шчасця, долі і здароўя!

Добрым на здароўе, ліхім на безгалоўе!

Добрага здароўя ад краю да краю, ды ўсім дабра харошага жадаю!

На доўгі век, на добрае здароўе!

Першым разам, лепшым часам!


БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання пяты, 1999
* пасведчанне аб рэгістрацыі №125 ад 27.06.96
* наклад 3500 асобнікаў
* пры перадруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*
Summary: *Алена Данілава*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53
Аўтары маюць права вольна выказваць свае меркаванні і нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак
Газета надрукавана ў друкарні выдавецтва "Беларускі дом друку"
Падпісана ў друк 5. 01. 99 Замова №14
Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" **20 000 рублёў.**

"BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Loving Newspaper. Motto: With Love To Lap. Published at the initiative of the Information Green Agency "NERUSH-PRES" Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76